
Мікола Яноўскі→3

# Ніва

## ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ


BULBAMOVIE '15→8


PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 46 (3105) Год LX Беласток, 15 лістапада 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



■ На першым плане старшыня аб'яднання „Шчыты" – Звязу ў карысць адукацыі і прамоцы беларускай культуры Ігар Лукашук на фоне канкурсантаў фестывалю

# Зменлівая „Бардаўская восень"

**Ужо больш за дваццаць гадоў крокі, вушы і вочы людзей з уражлівай душою накіроўваюцца ў Бельск-Падляшскі. Тут восенню на зломе кастрычніка і лістапада адбываецца Фестываль „Бардаўская восень". Гэта адзіны фестываль бардаўскай песні, які адбываецца па-за Беларуссю і які мае так доўгую гісторыю. Ці сёлетні XXII выпуск фестывалю нечым вылучаўся на фоне папярэдніх? Нечым новым, нечым станоўчым, нейкім подыхам свежасці?**

На сёлетнім фестывалі „Бардаўская восень" за чатыры раўнапраўныя прэміі змагаліся дзесяць канкурсантаў. Абвяшчаючы вынікі конкурснай часткі, старшыня конкурснай камісіі Міхал Анемпадыстаў сказаў, што гэта не рэйтынг — усе ўзнагароды аднолькава важныя. Аднак Гран-пры XXII Фестывалю беларускай бардаўскай ды аўтарскай песні „Бардаўская восень — 2015" атрымаў гурт „Хмарка на траве". Прэмію Радыё Рацыя атрымала Наталля Нікіціна. Прыз аб'яднання „Бельская кааліцыя" дастаўся дуэту „Yulany", а ўзнагарода старасты Бельскага павета — Стасю Сілку. Усе пераможцы былі з Беларусі. На жаль, сёлета выканаўцы з Падляшша не паказалі нічога асаблівага. Дуэт „Хахлакі", які дарэчы выступаў як першы ў конкурснай частцы, не надта ўпісваўся ў характар фестывалю. У мінулых гадах з Падляшша выступалі людзі, якія хацелі і мелі пераказаць нешта вартаснае. Па сённяшні актуальнай з'яўляецца песня Хрыстафора Сяськевіча „Айчына". Але спяваліся таксама песні на словы беларускіх паэтаў-„белавежцаў", між іншым, Надзеі Артымовіч (супольны праект з Алегам Кабзаром), Віктара Шведа, Яна Чыквіна ці Алеся Барскага.

„Барды" становяцца неад'емнай часткай музычнай культуры Беласточчыны, але і Беларусі. Не аднаму музыку фестываль адкрыў кар'еру ў цудоўны свет музыкі, дзе важнае не толькі як спяваецца, але і аб чым спяваецца. З „Бардаў" пачыналі сваю музычную кар'еру Паліна Рэспубліка, „Босае сонца" ці Яўген Барышнікаў — пераможца фестывалю „Бардаўская восень — 2010", сябра Беларускага дударскага клуба.

— Для мяне „Бардаўская восень" дала ўпэўненасць. Зразумеў, што тое, што робіш гэта не толькі для сябе, пазнаеш цікавых людзей. Гэта патрэбнае і іншым, — адзначыў Яўген Барышнікаў.

Сёлетнія канкурсанты гэта перш за ўсё маладыя людзі, якія толькі пачынаюць уваходзіць на музычную сцэну. Дзесяць канкурсантаў паддалося ацэнцы журы ў складзе: Міхал Анемпадыстаў, Зміцер Вайцюшкевіч ды Андрэй Сцепанюк. На думку Зміцера Вайцюшкевіча, выбраныя былі самыя перспектыўныя выступоўцы:

— Мы шукалі новыя словы ў сённяшняй прасторы бардаўскай песні, а ў жыцці — адказу на нейкія пытанні. Нам падаецца, што гэта якраз тыя, каго мы вызначылі.

Як заўважыў Андрэй Сцепанюк, амаль усе гурты паказалі сабою высокі музычны ўзровень. Аднак Гран-пры мог атрымаць толькі адзін выканаўца. Журы гэтай прэміяй вылучыла гурт „Хмарка на траве".

Мінчанка Наталля Нікіціна была ўзнагароджана прэміяй Радыё Рацыя. Сама яна піша песні па-руску і па-беларуску, прытрымліваецца традыцый класічнай бардаўскай песні. На яе думку, такая прэмія дапаможа паверыць у свае сілы.

— Я стараюся, каб песня закранула сэрца чалавека, каб яна закранула тое лепшае, што ў ім ёсць. Каб людзі ўспомнілі, што ёсць прыгожае пачуццё, што гэта вельмі добра імі жыць, добра дарыць, адказваць дабром на дабро, — сказала пасля агучэння вынікаў Наталля Нікіціна.

Чарговага прызёра бельскага мерапрыемства Стася Сілку з Наваполацка ўжо можна назваць новай з'явай у беларускай бардаўскай музыцы. У яго яшчэ няма пастойных аўдыё- і відэазапісаў, але яго дэмкі актыўна рэпосяцца ў сацсетках.

— Перамагаць заўсёды прыемна, — сказаў Стась Сілка. — Гэта нагода, каб не кідаць як мінімум, рабіць штосьці далей, размічваць на нешта большае. Гэта вельмі прыемны вынік працы. Гэта мой першы конкурсны вопыт.

Чацвёртым узнагароджаным выканаўцам быў дуэт „Yulany". Юля выступіла на сцэне з музычным інструментам укулеле. Яе партнёр Сяргей іграе на гітары. Супольна ствараюць лёгкую пазітыўную музыку, нешта пасярэдзіне рэгэ і джаза.

— Прыезд на такі фестываль адкрывае перад намі новыя магчымасці, — сказала Юля. — Дагэтуль я не ведала, што на Падляшшы шмат беларускамоўных людзей. Цяпер я ўпэўненая ў тым, што калісьці яшчэ прыеду сюды зайграць, бо сапраўды ёсць каму.

Пару гадоў таму вельмі добрай і здзейсненай думкай было пашырэнне геаграфіі фестывалю па-за Бельск. Такім чынам бардаўская песня завітала найперш у Гайнаўку, а потым у Нарву, Орлю, Чыжы і Беласток. Ад пару гадоў абодва бельскія канцэрты транслююцца ў прамым эфіры Радыё Рацыя, што пашырае абсяг фестывалю, так бы мовіць, на ўвесь свет. Аднак нішто не заступіць жывой прысутнасці на канцэрце. Тым больш, што зоркамі сёлетняга фестывалю былі такія тузы як Яўген Барышнікаў, Сяргей Башлыкевіч, Таццяна Беланогая, :B:N: акустычна, „BosaeSonca", „Зміцер Вайцюшкевіч & W-Z Orkiestra", „ILO&friends", Трыа з Аляксандрам Ясінскім і „Navi", дарэчы, лаўрэат сёлетняга „Басовішча", толькі ў рок-варыянце.

Сёлета „Бардаўская восень" праходзіла ў днях 6 і 7 лістапада. Напярэдадні былі зладжаны канцэрты-запрашальнікі, а пасля — канцэрт у Падляшскай оперы і філармоніі ды ў Шчытах.

Фестываль „Бардаўская восень" у Бельску-Падляшскім быў задуманы Звязам беларускай моладзі. Тадышні старшыня ЗБМ Багдан Сіманенка неаднойчы паўтараў, што „Басовішча" гэта рок-фестываль, на якім з часам не стала месца для бардаўскай песні. А гэты жанр музыкі не менш вартасны ад рока. Таму задумалі якраз у Бельску стварыць „Бардаўскую восень".

Цяперашні бард, прыкладам чаму з'яўлецца сёлетняя „Бардаўская восень", гэта не толькі асоба з гітарай, якая спявае з настальгіяй, задумай ці воляй змагання за Беларусь, гэта таксама можа быць рок-гурт. Акустычны канцэрт гурту :Б:Н: яскрава засведчыў аб гэтым.

— „Бардаўская восень" мяняецца як усё навокал, — кажа старшыня аб'яднання „Шчыты" — Звязу ў карысць адукацыі і прамоцы беларускай культуры, Ігар Лукашук. — Стылістыка „Бардаў" пашыраецца з году ў год. Фактычна, першыя фестывалі гэта была толькі бардаўская песня, з цягам часу пачала яна пашырацца на аўтарскую песню. І вось пачалі прыязджаць да нас не толькі барды, але і рок-гурты, якія падрыхтавалі адмысловыя праграмы для „Бардаўскай восені".

„Бардаўская восень" мяняецца. Перш за ўсё самі ўдзельнікі, канкурсанты змяняюць фармат фестывалю. Класічная бардаўская песня, папулярная ў канцы мінулага стагоддзя, паціху адыходзіць. Яе месца займаюць сучасныя формы, вельмі разнастайныя ў плане жанру. Адчуваецца ўплыў рока ці блюза. Гэта цікава насамрэч — гэта трансфармацыя жанраў. Добра, што фестываль рэагуе на гэта, не замыкаецца ў старым фармаце, але прымае таксама новае. Гэта значыць, што фестываль жывы, што ён жыве сваім жыццём. Ён не замкнуўся, не варыцца ў сваім саку, а адчуваецца яго дынаміку.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ





# Танга „Інаўгурацыя“

Напярэдадні „празніка Вялікава Акцябра“ ў Беларусі прайшла яшчэ адна дзяржаўная ўрачыстасць — пятая прысяга народу першага, нязменнага і пажыццёвага кіраўніка дзяржавы. Было гэта нібыта танцы суботнім днём пасля цяжкай стамляльнай працы цягам працоўнага тыдня. Гэткае танга „Інаўгурацыя“.

На свята кожны чалавек запрашае заўсёды сабе блізкіх і падобных. Таму выбар прысутных у пампезным Палацы Незалежнасці быў абсалютна лагічным і паслядоўным. Больш за тысячу запрошаных, сярод якіх галоўныя чыноўнікі краіны, прадстаўнікі сілавых структур, розныя дыпламаты, так званыя дэпутаты, вядомыя спартоўцы, замежныя госці. На пярэднім плане была мадам Ярмошына. Цяпер, пасля прыпынення захадам санкцый да дзяржаўных чыноўнікаў і службоўцаў, яе можна так называць на французскі манер. Старшыня ЦВК — чалавек незаменны ў гэтай дзяржаве. Чарговы раз выканаўшы місію ўсяго свайго жыцця, яна ўрэшце можа выпраўляцца ў адпачынак на жаданыя Елісейскія палі.

У пярэдніх радах сядзелі розныя саракагадовыя і крыху старэйшыя генералы з безліччу бляшаных узнагарод на грудзях. Цікава ў якіх баях яны іх здабылі? Сярод нафталінавых пенсіянераў яшчэ савецкай школы, такіх як былы прэм'ер, ён жа галоўны акадэмік краіны, ён жа галава Адміністрацыі ППРБ Міхаіл Мясніковіч, ці наш „усесаюзны стараста“, ён жа экс-галоўны банкір, ён жа герой Беларусі Пётр Пракаповіч, стройнасцю фігураў вылучаліся знакамітая біятланістка, таксама герой ці гераіня Беларусі Дар'я Домрачава, прэс-сакратар ці сакратарка начальніка дзяржавы са шляхецкім прозвішчам Наталля Эйсмант, яшчэ некалькі маладзіц, пакліканых разбавіць гурт таўставатых мужыкоў у мундзірах ды мешкаватых касцюмах. Так што ўсё было як належыць.

Сярод запрошаных на баль традыцыйна прысутнічалі і расійскія пасланцы. Галоўны выканаўца ўсходняй калінкі-малінкі — нязменны лідар камуністаў Расіі Генадзь Зюганаў, найбольш блізкі па духу і поглядах кіраўніку Беларусі.

А вось і некалькі элементаў гапака. Рэверанс у бок былога прэзідэнта Украіны, які быў прыкметным сярод пачэсных замежных гасцей. У бок Леаніда Кучмы, які наўмысна быў названы не былым, а проста прэзідэнтам Украіны. Таго Кучмы, які за свае два прэзідэнцкія тэрміны на чале Украіны развёў такую карупцыю і беззаконне ў сваёй краіне, што да гэтай пары не могуць расхлябаць праблемы і даць рады. Гэты Кучма даўно павінен сядзець за кратамі, ці хоць бы на лаве падсудных. А ён выраздзіўся ў тогу „міратворца“ і прыязджае раз за разам з радасцю ў сталіцу Беларусі амаль як пасланнік украінскай дзяржавы.

Ну і, канешне, чарговы тур венскага вальса. Запрошаныя еўрапейскія дыпламаты таксама „почтили“ сваёй прысутнасцю ўрачыстую цырымонію. Чарговая „перазагрузка“ і перавыхаванне. Цікава толькі, хто на каго больш уплывае?!

А іерархі асноўных канфесій сваім ужо традыцыйным з'яўленнем на чарговым „хурале“, цяпер у Палацы Незалежнасці, фактычна блаславілі абранніка на чарговы тэрмін царавання. Ну як тут не паверыць у сваю сапраўдную богаабранасць. Да ўжо класічнай трыады, вынайдзенай у Маскве яшчэ ў дзевятнаццатым стагоддзі, „праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць“ мы даўно прывыклі. За апошнія ж гады да праваслаўя можна смела далучыць і іншыя канфесіі. „Шчаслівыя тыя, што не ходзяць на раду бязбожных“. А адзін заезны каталіцкі іерарх нават з замілаваннем прамовіў для тэлебачання, што Беларусь — гэта адзіная краіна Еўропы, дзе няма жабракоў. Ну гэта сапраўды так, мы ж у гэтай краіне фактычна ўсе мільянеры. Праўда, за дзень да карамацыі стала вядома, што ў наступным годзе нулі на купюрах прыбяруць і давядзецца лічыць ужо класічныя капейкі.

Але пакуль амаль поўны ажур і палітычны камфорт. Дык чаму ж такім пахмурным, неспакойным, амаль раздражненым выглядаў галоўны герой гэтай цырымоніі? Чаму большую частку сваёй прамовы ён нешта зацята даводзіў сваім паплечнікам. Напэўна таму, што танцаваць гэтае танга „Інаўгурацыя“ ўжо мала хто хоча. Таму, што вуліцы Мінска былі пустымі і змрочнымі. Таму, што масавая народная любоў даўно мінула.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Абсурд у галаве

Расіяне мяне азадачылі! Азадачылі абсурдам. Але перш, чым пра расійскую азадачанасць, некалькі слоў аб самім абсурдзе. Абсурд, гэта нонсэнс, бяссэнсіца, недарэчнасць, бязглуздзіца. Так вызначае гэтае паняцце «Слоўнік іншамоўных слоў» Аляксандра Булыкі. Бо недарэчнасці ў нашым паўсядзённым жыцці ёсць так шмат, што пара спытацца, ці наша рэальнасць гэта не проста адзін Вялікі Абсурд. Але давайце пакінем гэтае пытанне ўбаку. Таму што ў адваротным выпадку будзем сходзіць з розуму. У больш вузкім сэнсе абсурд гэта тое, што супярэчыць законам логікі. Ілюстрацыяй гэтага з'яўляецца адна з прыгод вядомага Віні-Пуха Алана Мілна. Вось Віні-Пух вырашыў наведаць свайго сябра Пятачка. Ішоўшы да яго, ён уяўляў сабе, што знойдзе яго дома, як той грэе каля камінка свае пяткі. Але ж быў здзіўлены, калі ўбачыў, што ў яго дзверы адчыненыя. «І чым больш глядзеў унутр, тым больш Пятачка там не было». Нехта крыкне цяпер — «Але гэта ж абсурд! Той факт, што гледзячы ўсё глыбей у нутро чаго-небудзь, не азначае, што нечага там усё менш і менш». На самой справе, гэта абсурд, нонсэнс, бязглуздзіца. Але звярніце ўвагу, колькі гэтая бессэнсоўнасць змяшчае глыбокага сэнсу. Давайце возьмем Расію... Чым больш у яе паглыбляцца, тым больш яе ўсё менш і менш. Гэта, аднак, цяжка выкласці самымі словамі. Дык можа лепш было б грымнуцца галавой аб сцяну? Хаця... ці варта гэтак? Ужо гэта пад сумненне паставіў незабыўны афарыст, аўтар бліскучых «Непрычасаных думак» Станіслаў Ежы Лец, якога я цытую тут з памяці: «Ну, ты прабіў галавой мур... Што будзеш рабіць у наступнай камеры?». Я думаю, што тое ж самае — прынамсі я так думаю. Бо ці ёсць іншы выбар? Дарэчы, ці не праўда гэта, што чым больш застаешся ў турме, тым больш думаеш аб свабодзе? Вось, парадокс. Ці іншы абсурд?

Вось адно з апошніх распараджэнняў прэм'ер-міністра Расіі Мядзведзева загадвае, каб усе ўладальнікі аўтазаправачных станцый у Расіі ўсталявалі дарагія ўстаноўкі для зарадкі электрычных аўтамабіляў. Дык каму ж яны патрэбны? Дасюль у Расіі зарэгістраваны 500 такіх аўтамабіляў, не лічачы яшчэ 50 набытых на працягу апошніх шасці месяцаў. Для параўнання — у Нарвегіі такіх аўто 50 тысяч! Для расіян электрамабілі надта дарагія. Змогуць іх набыць не проста багатыя, а найбольшыя багацеі. Большасць з іх жыве, аднак, у Маскве ці Санкт-Пецярбургу. У расійскую глыбінку яны лётаюць на верталётах! Тэмп рэалізацыі пастановы таксама здзіўляе. Уступае яна ў сілу з 1 лістапада 2016 г. Паколькі большасць АЗС, як мак раскіданых па велізарнай краіне, знаходзіцца ва ўласнасці невялікіх сямейных прадпрыемстваў, якія ледзь зводзяць канцы з канцамі, на больш сур'ёзныя інвестыцыі яны проста не могуць сабе дазволіць. Горш таго, у прапанове расійскіх банкаў практычна не існуюць танныя крэдыты для малога бізнесу. Такім чынам застаецца ім або адразу закрыць свае прадпрыемствы, або памалу канаць пад цяжарам адміністрацыйных санкцый. Цікава, што з дакумента, змешчанага на афіцыйным урадавым сайце, вынікае, што ў аснову пастановы пакладзены клопатам аб павелічэнні вытворчасці экалагічна чыстых электрамабіляў. Толькі што ў Расіі ні адзін завод не вырабляе масава такіх аўтамабіляў. Дык у чым справа? Хіба што нейкая Роснефть або іншы дзяржаўны малох хоча перанясць бізнесную драбнечу грамадзян, ці мо Дзяржава спрабуе пазбавіць іх парэштак незалежнасці?

Цыркуль гісторыі выразна рысуе ў Расіі феадальна-паншчыннае кола. Зняволенне расіян рабаўніцкай уладай, якая прысабечыла расійскую Дзяржаву, абсурдна балючае. Чыста па-чалавечы балючае. У Расіі ствараецца неафеадальны грамадскі твор, які моцна адрозніваецца ад папярэдняй мадэлі тым, што суверэнам у яго новай эманацыі з'яўляецца прыватызаваная бандыцкім алігархатам Дзяржава. Сімптаматычным з'яўляецца саюз Праваслаўнай царквы з гэтым нататворам. Паўтараецца таксама яе васальная структура са строга іератычным рысам. Большасць масы людзей паступова ператвараецца ў заняволены і пазбаўлены голасу гной. Вось, такі абсурд! Але ці то ў рэальнасці, ці ў свядомасці расіян? А калі б хто спытаўся, дзе Крым, дзе Рым, дзе Расія, дзе Польшча, то я спытаюся, ці польскія або беларускія галовы адрозніваюцца ад расійскіх?

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма еўрапейца

# Выбары з праломам

Вось у нас ёсць новы маршалак Падляшскага ваяводства. Стаў ім менавіта пасля абрання дэпутатам Сейма былога маршалка, то ёсць Мечыслава Башко — яго калега па партыі, член ПСЛ і былы член управы ваяводства Багдан Дыюк... Так меў пачынацца гэты тэкст, але новага маршалка да моманту выхаду гэтага нумара «Нівы» не абралі. Кандыдатура Багдана Дыюка не была падтрымана неабходнай большасцю. А ўсё было вось так.

ПСЛ, якая ў ваяводскім сейміку мае дзевяцёх радных, перад планаванымі выбарамі новай управы заявіла ў СМІ, што не выключана ў гэты раз кааліцыя з клубам ПіС, які налічвае дванаццаць радных. Відавочна, агледзіліся на тое, як дагаворваюцца кааліцыі з сялянскай партыяй у іншых ваяводствах, дзе ПСЛ кіруе сумесна і дзе сітуацыя пасля нядаўніх парламенцкіх выбараў у іх управах падобная, і таму неабходнае абранне новай управы. Агледзіліся і на тое, ці напэўна ПіС ва ўрадава-парламенцкім маштабе не будзе патрабаваць кааліцыянта ў выглядзе менавіта сялянскай партыі. Не патрабавала. Свайго кандыдата на маршалка ПСЛ не выяўляла. Грамадзянская платформа (мае ў Падляшскім сейміку восем радных) да канца аптавала за існуючай кааліцыяй, дзякуючы якой да гэтага часу ў ваяводскай управе з пяці асоб двух членаў ГП засядае ў якасці намеснікаў маршалка: Анна Нашкевіч і Мацей Жыўна (былы ваявода, які прайграў выбары ў Сенат на Беласточчыне з Янам Дабжынскім з ПіС — былым ваяводскім радным і былым ваяводам і сенатарам у 2007-2011 гадах). Платформа тыдзень да выбараў новай управы выпусціла ў СМІ інфармацыю, што будзе гатова прапанаўваць кандыдатуру маршалка ад сваёй партыі, а каб астатнія месцы ва ўправе даць ПСЛ. Як можна было чакаць, гэта для сялянскай партыі, якая да гэтай пары мела маршалка і двух членаў управы, было непрымальным.

Канчаткова па заяве ПіС старшыня сейміка Мар'ян Шаматовіч склікаў нечарговае пасяджэнне на 4 лістапада, адначасова другую сесію на наступны дзень — па заяве кааліцыі ПСЛ-ГП. Як можна было спадзявацца, на першым пасяджэнні кворуму не было, таму што байкатавалі яго радныя ад ПСЛ, ГП (давалі зразумець раней) і адзіны радны ад СЛД Уладзімір Пятрочук. Прысутнасць толькі радных ПіС і старшыні Шаматовіча была недастатковай, каб пасяджэнне адбылося. Праз чатыры хвіліны сесія скончылася, і ПіС у гэты дзень не змагло прадставіць свайго кандыдата на маршалка. На наступны дзень, да наступнай выбарчай сесіі, было вядома: ПСЛ і ГП дамовіліся і заяўленне кандытата ПіС не будзе мець значэння (кандыдатура не атрымае падтрымкі большасці). Радны — дэпутат-элект Ян Дабжынскі запрапанаваў ад імя свайго клуба 27-гадовага раднага Лукаша Сякерку, выпускніка юрыстыкі з Высокага-Мазавецкага. Хваліў яго:

— Яго выхаванне, адукацыя і патрыятычнае стаўленне дазволяць на развіццё Падляшскага ваяводства.

Мечыслаў Башко ад імя кааліцыі запрапанаваў Багдана Дыюка, ад трох тэрмінаў ваяводскага раднага з Аўгустова, у папярэднім скліканні старшыню сейміка, адказнага ў адыходзячай управе за ахову здароўя. Раней, аднак, старшыня Шаматовіч амовіўся ад сваёй функцыі і хацеў, каб гэта прагаласаваць — так як і выбар яго наследніка — у той жа дзень. Кааліцыя мела вылучыць кандыдатуру Яраслава Дваханскага, былога падляшскага маршалка ад ГП (у адпаведнасці з кааліцыйным пагадненнем, гэтая функцыя мае дастацца Платформе). Аднак, галасаванне было перанесена на другі дзень, а Яраслаў Дважанскі з трэскам ляснуў дзвярыма, выходзіўшы з канферэнц-залы. Такім чынам ужо не хапіла аднаго голасу, каб упэўнена выбраць Багдана Дыюка, хоць, застаўшаяся колькасць радных кааліцыі (сямнаццаць з трыццаці) была б дастатковай. Між тым, пасля тайнага галасавання, высветлілася, што на карысць Лукаша Сякеркі выказаліся дванаццаць радных — столькі, колькі налічвае клуб ПіС, а за Багданам Дыюком — чатырнаццаць. Тры галасы былі прызнаныя несапраўднымі. Чые, невядома. Такім чынам працяг гэтай выбарчай справаздачы наступіць тут пасля чарговай выбарчай сесіі. Між тым дадам толькі, што ў адпаведнасці з вызначэннямі перад папярэдняй сесіяй 5 лістапада ў склад новай управы, па-за Багданам Дыюком і віцэ-маршалкамі ад ГП, мелі ўвайсці яе члены ад ПСЛ: як і раней аграінжынер з Цеханоўца Ежы Ляшчынскі і як новы член Стэфан Краеўскі, радны з Замбраўскага павета, дырэктар падляшскага рэгіянальнага аддзялення Агенцтва па развіцці і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Мікола Яноўскі — аграном і мастак

**Размова з Мікалаем Яноўскім са Старога Беразова, шматгадовым аграномам і земляробам, жывапісцам.**



Фота Аляксея МАРОЗА

Мікола Яноўскі малюе любімыя кветкі

**— Цяпер людзі ведаюць Вас як жывапісца, таленавітага самавука, з-пад пэндзля якога выходзіць многа алейных карцін. Вы пражылі 75 гадоў, інакш кажучы, тры чвэрці ад сотні, і многія жыхары Чыжоўскай і Гайнаўскай гмін ведаюць Вас таксама як шматгадовага агранома, які ўводзіў новыя метады гаспадарання ды правёў многа курсаў на званне «кваліфікаваны земляроб», якое дазваляла сялянам стаць паўнапраўнымі земляробамі і набыць зямлю для гаспадарання.**

— Я перш за ўсё быў гаспадаром, абрабляў каля 10 гектараў зямлі і разам з жонкай Верай гадавалі кароў і свіней. Калі, рэзаўшы драўніну крайзэгай, я моцна скалечыў нагу, паявіліся ў мяне клопаты з хадзьбой, цяжка было хадзіць за канём па полі. Я не ведаў, ці змагу доўга гаспадарыць, і рашыўся здабыць сельскагаспадарчую адукацыю і пайсці на працу, якая дасць мне пастаянны заробак. Я стаў завочна вучыцца ў Сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Ружаным Стоку. Закончыўшы школу, коратка працаваў у Гайнаўцы. Калі ліквідавалі паветы, патрабавалі двух аграномаў у Чыжоўскай гміне. І я там стаў працаваць аграномам. Хаця ўвесь час я займаўся з гаспадарамі гэтай гміны, пасля маімі працадаўцамі сталі Ваяводскі асяродак сельскагаспадарчага прагрэсу і Асяродак сельскагаспадарчай кансультацыі ў Беластоку. У Чыжоўскай гміне і для жыхароў сваёй вёскі, Старога Беразова, вёў я сельскагаспадарчыя курсы, удзельнікі якіх атрымлівалі званне «кваліфікаваны земляроб» і «земляроб-майстар». За гэтую працу ўзнагароджаны я дыпломамі беластоцкага ваяводы. У мяне прыгожы почырк і нават назначылі мяне сакратаром экзаменацыйнай камісіі гэтых курсаў.

**— Ці гаспадары ахвотна карысталіся парадамі агранома і ішлі на супрацоўніцтва, калі трэба было разводзіць новыя сарты збожжа або бульбы?**

— Я найбольш працаваў з жыхарамі Збуча і Мора Чыжоўскай гміны і некаторыя гаспадары пастаянна супрацоўнічалі са мной. Найбольш плённае супрацоўніцтва я наладзіў з двума Яўгенамі Заброцкімі са Збуча, з Росцікам Масальскім, Славікам Кендысем, Росцікам Заброцкім і Толікам Сачко з Мора. Супрацоўнічаў я таксама з іншымі сялянамі, але былі таксама такія гаспадары, якія недаверліва ставіліся да новых парод жывёлы ці сартоў збожжа. Праўда была такая, што традыцыйныя пароды кароў, напрыклад чырвоная, былі лепш прыстасаваны да нашага клімату і расліннасці, менш хварэлі, а малако ад іх было больш тлустым і ў ім было больш бялку. Чорна-пярэстыя каровы, якіх мы разводзілі, патрабавалі большага догляду, лепшага падбору кармоў і толькі тады давалі прыкметна больш малака. З мяснай шаралезскай пароды кароў найчасцей гадавалі бычкоў, якіх прадавалі на мяса.

**— Некаторыя гаспадары гаварылі, што новыя сарты збожжа не заўсёды спраўджваліся ў нас. А як было ў сапраўднасці?**

— Залежала гэта ад спосабу вырошчвання збожжа. Нашы гаспадары наогул карысталіся вопытам, які пераймалі ад сваіх бацькоў, сяброў, сваякоў, а для вырошчвання новага сорту збожжа была патрэбна дадатковая адукацыя. Калі нехта сеяў новы сорт збожжа, якога не прыбіваў да зямлі нават вялікі дождж з ветрам, трэба было прымяняць больш мінеральных угнаенняў. У іншым выпадку плён быў меншым, чым ад традыцыйнага. Калі нехта рашаўся ўвесці новы сорт збожжа, атрымліваў спачатку дармовае насенне і даплату да ўгнаення і іншых расходаў па вырошчванні. Пасля фінансавая падтрымка меншала, але і так вырошчванне новых сартоў збожжа было прыбытковым. Гаспадары наогул ведалі, што трэба мяняць збожжа, бульбу кожныя некалькі гадоў, але часта абменьваліся насеннем толькі з іншымі гаспадарамі, а гэта ім не дапамагала пазбегнуць хвароб збожжа і бульбы.

**— Пры народнай уладзе аграномы былі пасрэднікамі паміж сялянамі і гмінннымі ўладамі.**

— Тады трактары і многія сельскагаспадарчыя машыны можна было купіць пасля атрымання адміністрацыйнага прыдзелу. Гаспадары думалі, што мы можам дапамагчы ім атрымаць талон, аформіць іншыя справы ў гміне. А ў нас такіх магчымасцей не было. Затое падчас кантактаў з гаспадарамі часта прапанавалася выпіць. Аграномы, якія не патрапілі стрымацца ад выпіўкі, распіваліся, бо дармовай гарэлкі было для іх мора. Я не выпіваў і таму пазбегнуў алкагалізму. Без гарэлкі ўдалося мне дапамагчы гаспадару Герману са Збуча атрымаць прыдзел на куплю трактара. У гэтага гаспадара дома ляжала спаралізаваная жонка, а яму трэба было абрабляць поле і выхоўваць дзяцей. Я запрапанаваў солтысу Збуча Грышу Хворасю і жыхарам сяла, каб яны ў адным годзе адмовіліся ад трактара, які меў быць прыдзелены вёсцы. Солтыс сабраў подпісы жыхароў Збуча і Герман мог ездзіць новым трактарам.

**— У сямідзясятых-васьмідзясятых гадах хутка сталі пусцець нашы вёскі. Як было з гэтым у Чыжоўскай гміне і Старым Беразове?**

— Падчас Другой сусветнай вайны, за выключэннем трох хат, усе дамы ў Старым Беразове згарэлі. Падпалілі іх немцы пасля сутычкі з савецкімі салдатамі, калі тыя адступалі, каб не папасціся ў акружэнне. Пасля вайны трэба было адбудоўвацца. Нашы хлопцы і дзяўчаты не выязджалі здабываць вышэйшую адукацыю. Нават я памятаю, як падчас майго юнацтва старэйшыя жанчыны гаварылі, што ўсе панамі і так не стануць і няма патрэбы, ходзячы ў школу, нішчыць абутак. Пасля падыход бацькоў да адукацыі памяняўся. У нашым сяле і ў суседніх вёсках бывала, што нават не пакідалі аднаго сына, каб той пераняў гаспадарку, як гэта бывала ў польскіх вёсках. Рэзультат гэтага быў такі, што цяпер у Старым Беразове маладых гаспадароў мала. Дамы ў нас прыгожыя, а жывуць у іх наогул пенсіянеры. Канешне, ёсць некалькі малодшых гаспадароў, якія займаюцца гаспадараннем. Самым вялікім гаспадаром з'яўляецца Юры Ялоза, які абрабляе сотні гектараў зямлі. Ён скупляе зямлю і нядаўна купіў 12 гектараў якаснага поля ў адным кавалку, заплаціўшы ажно па 40 тысяч злотых за гектар, перабіваючы цаной астатніх удзельнікаў аўкцыёну. Некаторыя дамы ў Старым Беразове пустуюць, але іх уласнікамі наогул з'яўляюцца выхадцы з нашай вёскі. Некалькі хат для рамонту купілі ў нас праваслаўныя асобы з іншых мясцовасцей. Наша вёска не пусцее так хутка, як сёлы на мяжы з Беларуссю. Нашы жыхары даязджаюць на працу ў Гайнаўку і іншыя мясцовасці.

**— Вы заўважылі свой мастацкі талент яшчэ ў падставовай школе, але сталі пастаянна займацца жывапісам ужо на пенсіі.**

— Настаўніца загадала нам нарысаваць партрэт Берута, а калі мой рысунак ёй спадабаўся, папрасіла нарысаваць яе саму. І я з гэтым партрэтам таксама справіўся. У мінулым рысаваў я партрэты блізкіх мне асоб. Яшчэ будучы аграномам, рысаваў я краявіды. Алейныя карціны стаў маляваць ужо ў новым стагоддзі, а ў 2003 годзе мае першыя алейныя карціны экспанаваліся ў Гайнаўскім доме культуры, разам з працамі Цімафея Ціханюка, на выставе «Мастакі галубінага сэрца».

**— Вашы карціны штогод паказваюцца на конкурснай выставе пасля «Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі» і на іншых экспазіцыях.**

— Мае карціны прэзентаваліся на персанальных выставах у Гайнаўскім беларускім музеі, Гайнаўскім доме культуры і ў Этнаграфічна-экуменічным цэнтры ў Дубінах, які змяшчаецца ў будынку старой школы. Мае карціны пастаянна ўдзельнічаюць у «Аглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі», дзе займаюць першыя, другія і трэція месцы. Узнагароду атрымаў я таксама на аглядзе, арганізаваным Ваяводскім асяродкам анімацыі культуры ў Беластоку. Мае працы знаходзяцца ў розных мясцовасцях Польшчы — у Варшаве, Сандоміры, Беластоку, Белавежы і таксама за мяжой — у Беларусі, Украіне і Нямеччыне.

**— Вы намалявалі дзясяткі алейных карцін, выконваеце працы з сакральнымі тэмамі.**

— «Тайную вячэру», на якой відаць Хрыста і апосталаў, я выконваў вельмі доўга. Намаляваў я таксама мураваную і драўляную цэрквы з Новага Беразова, паколькі тут мой прыход, і Свята-Троіцкі сабор з Гайнаўкі.

**— Мастак з Гайнаўкі Віктар Кабац сказаў, што ў Вас, як жывапісца-самавука, вельмі добры натуралістычны варштат працы і, карыстаючыся адпаведнай тэхнікай малявання, цікава адлюстроўваеце прыроду ў яе рэалістычным выглядзе.**

— Я маляваў краявіды Белавежскай пушчы і прыпушчанскага рэгіёна, выконваю таксама краявіды іншых рэгіёнаў. На маіх карцінах можна ўбачыць лясную звярыну — зуброў, аленяў, ваўкоў, хатнюю жывёлу і людзей у розных абставінах. Ахвотна выконваю нацюрморт з кветкамі, які зараз малюю на сёлетні «Агляд непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі». Доўга я маляваў карціну з выявай царскага белавежскага палаца. Часта заказваюць у мяне «Тройку» — карціну, на якой ваўкі нападаюць на едучых, якіх вязе трое коней. Налаўчыўся я таксама маляваць курэй і за гэта пахвалілі мяне ў Гайнаўскім доме культуры. Працую ў майстэрні, якая змяшчаецца ў бацькоўскай хаце. Аднак зімой там холадна. Ужо цяпер малюю ў сваёй хаце.

**— Вы часта наведваеце беларускія фэсты і там прадаяце свае працы.**

— Людзі купляюць мае працы найчасцей на сувеніры. Адны выбіраюць карціны ўжо намаляваныя, а іншыя заказваюць канкрэтныя тэмы. Карціны купляюць жыхары вёсак і гараджане розных прафесій. Зараз у людзей мала грошай і таму даход ад прададзеных карцін невялікі, бо фарбы і рамы для карцін дарагія. Я найбольш малюю зімой, бо летам ёсць іншыя заняткі.

**— Якія ў Вас творчыя планы?**

— Калі будзе здароўе, хачу надалей маляваць, бо гэта дае адпачынак ад штодзённасці і дазваляе яшчэ больш разгортваць свае ўмеласці.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў Аляксей МАРОЗ




# XVIII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб’яўляюць XVIII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

**ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА**

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з’яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп’ютары або разборлівы рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб’ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XVIII Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**ТЭРМІНЫ**

**1.** Тэрмін дасылання да 16 лістапада 2015 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб’яўлены ў снежні 2015 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.

# Юбілей Брэсцкага ўніверсітэта


Злева: праф. Тамара Захарук, праф. Анна Сендзер і праф. Казімеж Янкоўскі

Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна адзначыў 70-гадовы юбілей. З гэтай нагоды адбылося шмат мерапрыемстваў навуковага, культурнага і спартыўнага характару. Самым важным момантаў святкаванняў было ўрачыстае пасяджэнне Сената БрДУ 30 кастрычніка. Прыняло ў ім удзел шмат гасцей не толькі з навуковых цэнтраў Беларусі, але таксама з Польшчы, Нямеччыны, Італіі, Расіі, Украіны, Казахстана.

Вышэйшая навучальная ўстанова ў Брэсце — першапачаткова Настаўніцкі інстытут — была заснавана ў 1945 годзе. У 1949 г. пераўтворана яна была ў Педагагічны інстытут, а ў 1995 г. атрымала ранг універсітэта (тады рэктарам быў праф. Васіль Сцепановіч, у 1999-2015 гг. выкладчык Прыродазнаўча-Гуманітарнага ўніверсітэта ў Седльцах). Цяпер у структуры БрДУ працуе 10 аддзяленняў і каледж у Пінску. На філалагічным аддзяленні можна атрымаць некалькі спецыяльнасцей па беларускай мове. Як з гонарам адзначаюць працаўнікі, філалагічны факультэт працуе ад пачатку існавання вучэльні. У групе першых абітурыентаў былі таксама настаўнікі беларускай мовы. У саракавых гадах філалагічным аддзяленнем кіраваў Міхаіл Дуброўскі — выкладчык беларускай літаратуры

Цяпер на дзённых і вячэрніх аддзяленнях вучыцца 8,5 тыс. студэнтаў. Займаюцца з імі 506 выкладчыкаў. З 3 мая 2014 г. рэктарам БрДУ з’яўляецца праф. Анна Сендзер (у 2001-2007 гг. працавала выкладчыкам Прыродазнаўча-Гуманітарнага ўніверсітэта ў Седльцах). БрДУ заключыла 54 дамовы аб міжнародным супрацоўніцтве. Найдаўжэй БрДУ супрацоўнічае з Прыродазнаўча-Гуманітарным універсітэтам у Седльцах — з 1986 года. Тады БрДУ быў яшчэ Педагагічным інстытутам, а ПГУ — Вышэйшай сельскагаспадарча-педагагічнай школай.

Сярод гасцей з Польшчы былі рэктар ПГУ праф. Тамара Захарук і прарэктар па навуковых справах праф. Казімеж Янкоўскі. Удзельнічалі яны ў шэрагу юбілейных мерапрыемстваў. На ўрачыстым пасяджэнні Сената рэктар праф. Тамара Захарук адзначыла, што супрацоўніцтва дало станоўчы досвед як у галіне навуковых даследаванняў, так і ў дыдактычным працэсе. Сказала таксама: „Жадаючы чарговых шматлікіх поспехаў, перспектыўных ініцыятыў і далейшага прагрэсу, выказваю спадзяванне, што Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна і Прыродазнаўча-Гуманітарны ўніверсітэт у Седльцах будуць садзейнічаць на розных узроўнях, здзяйсняючы супольныя мерапрыемствы, разам прымаючы выклікі і працуючы на карысць адукацыі і выхавання маладых людзей у абедзвюх нашых краінах”.

Падчас урачыстасці рэктар Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна праф. Анна Сендзер сказала: „У нас прыгожая гісторыя, якой можна і трэба ганарыцца. Перад намі харошыя перспектывы. У прапарцыянальна нядоўгім часе мы перайшлі шлях ад інстытута да класічнага ўніверсітэта. Мы сталі цэнтрам навуковых і культурна-асветных даследаванняў жыцця паўднёва-заходняга Палесся. Ужо сёння выпускнікоў універсітэта можна сустрэць ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Працуюць яны на розных пасадах і заўсёды паказваюць сваю высокую ступень прафесійнай падрыхтоўкі. Гэта не справа выпадку. Навуковыя супрацоўнікі гэта людзі асаблівыя, для якіх БрДУ гэта не толькі месца працы, але перш за ўсё выкананне місіі ўсяго жыцця. Гэта спрыяе фармаванню ўнікальнай, творчай атмасферы, якая пануе ў мурах універсітэта. Працягваючы шматгадовыя традыцыі, БрДУ развіваецца і ўдасканальваецца. Адзначаючы свой 70-гадовы юбілей, наша акадэмічная грамадскасць з аптымізмам глядзіць у будучае. Разам можам здзейсніць самыя амбітныя планы і развіваць перспектыўныя ідэі”.

Юбілей быў нагодай, каб узнагародзіць асабліва заслужаных працаўнікоў і студэнтаў. Сярод гасцей былі прадстаўнікі навуковых цэнтраў, адміністрацыі паасобных узроўняў, каталіцкія і праваслаўныя святары, дыпламаты. Міністр адукацыі праф. Міхаіл Жураўкоў адзначыў, што „Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт фармуе аблічча Беларусі”. Консул Станіслаў Шыпульскі, выступаючы ад імя кіраўніка Генконсульства Славаміра Лучака, сказаў: „З задавальненнем заўважаем, што навуковыя працы выкладчыкаў прыбужскага ўніверсітэта карыстаюцца прызнаннем не толькі ў Рэспубліцы Беларусь, але і па-за яе межамі. Выказваем спадзяванне, што растучая зацікаўленасць польскай культурай, літаратурай і мовай стане добрай асновай для стварэння самастойнага факультэта для падрыхтоўкі высокага класа паланістаў, а дружалюбныя адносіны з вучэльнямі ў Рэчы Паспалітай будуць спрыяць развіццю польскай філалогіі ў сценах вашага ўніверсітэта. Глыбока верым, што дзякуючы вашаму творчаму падыходу супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі будзе працягваць развівацца і ўмацоўвацца”.

**Тэкст і фота Адама БОБРЫКА**

# Дзень сенiёра ў Чаромсе

7 лістапада ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адзначылі Дзень сеніёра. Арганізатарам мерапрыемства быў Гмінны асяродак сацыяльнай дапамогі. Імпрэза пачалася ў 13 гадзін. Удзельнічала больш ста сарака чалавек, у тым ліку войт гміны Міхал Врублеўскі, святары а. Юры Пліс і кс. Генрык Каліноўскі, старшыня Рады гміны Сяргей Смык ды шматлюднае кола сеніёраў. Першым выступіў кіраўнік самаўрада, які напомніў генезіс устанаўлення Дня сеніёра.

— Сусветны дзень сеніёра ў Польшчы адзначаецца 14 лістапада і з’яўляецца самародным адпаведнікам Міжнароднага дня асоб састарэлых, які ў сусветным маштабе штогод адзначаецца 1 кастрычніка. Міжнародны дзень састарэлых устаноўлены 14 снежня 1990 года Генеральнай Асамблеяй ААН. У сусветным маштабе 1999 год быў аб’яўлены Міжнародным годам сеніёраў пад лозунгам „Адкрытае грамадства для ўсіх пакаленняў”. 1 кастрычніка гэтага ж года была арганізавана Міжнародная сустрэча сеніёраў у Піле. Узорам гэтай сустрэчы па сённяшні дзень працягваецца традыцыя адзначання Дня сеніёра ў Чаромсе. Карыстаючыся нагодай сённяшняга святкавання перадаю Вам, паважаныя сеніёры, ад сябе асабіста і ад гміннага самаўрада найлепшыя віншаванні, ды жадаю моцнага здароўя, шматлікіх поспехаў і задавальнення ў сямейным жыцці, пагоды духа ў коле найбліжэйшых. Затым, вясёлай і ўдалай забавы!

Старшыня Раённага праўлення Саюза польскіх пенсіянераў і інвалідаў Мікалай Янчук падзякаваў войту за цёплыя словы, затым сказаў:

— Гміна заўжды станоўча ставілася да патрэб Саюза пенсіянераў. Дзякуючы таму, карыстаемся бясплатна аўтамабільным транспартам і службовым памяшканнем у клубе. І за гэта шчырае дзякуй спадару войту...

Пакуль пачалося святочнае застолле, святары благаславілі стравы. Сталы ўгіналіся ад яды і напіткаў: бутэрброды з вэнджанай грудзінкай і свежай гароднінай, пячэнне і салодкасці рознага віду, фрукты, напіткі. Пра ўсё падбалі працаўнікі Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі з кіраўніком Марыяй Зіневіч на чале. У падрыхтоўцы страў дапамаглі жанчыны з Раённага аддзялення Саюза пенсіянераў. Удзельнікі сустрэчы не засталіся ў даўгу. Прыйшлі з „уласным кошычкам” багатым у „мацнейшы” напітак і рознага віду смакоцці дамашняга вырабу. У мастацкай частцы выступілі „Калінка” пад кіраўніцтвам Марыюша Харужага і „Каліна” з Журобічаў. Гэты калектыў гасцяваў упершыню на чаромхаўскай сцэне. Публіку весяліў і да танца падыгрываў музычны гурт „Прагрэс” з Гайнаўкі. У зале царыла сямейная, задушэўная атмасфера, якой спадарожнічалі вясёлая музыка і спеў. Паколькі ў першай частцы „Калінка” прэзентавала беларускія народныя песні, дык „Каліна” падарыла польскія народныя песні з усходняга рэгіёна. Выступы абодвух калектываў публіка ўспрымала авацыйна — бурнымі апладысментамі. Былі і адмысловыя віншаванні з дэдыкацыяй ад „Калінкі”. Іларыён Алексяюк з нагоды 78-х угодкаў з дня нараджэння атрымаў пажаданні ад членаў ПСПіІ, якія перадаў старшыня Мікалай Янчук. Сужонства Алеся і Юзік Храмінскія з Пагулянкі адзначалі 40-годдзе шлюбу. Адмысловую песню юбілярам „Ты і я навекі” выканаў лідар „Калінкі” Марыюш Харужы. Забава працягвалася. Музыканты не леналіся — „рэзалі ад вуха да вуха” ўперамешку беларускія, украінскія ды польскія мелодыі. Я, на жаль, пакідаў вясёлую кампанію пры першых поцемках. Каму ў дарогу, таму час. На сваім неадлучным веласіпедзе, поўны ўражанняў падаюся дамоў.



**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# У СІБІР іх не выслалі

**Надта бедныя былі. Бедавалі, хаця выводзіліся з багатых шляхецкіх родаў. Дзякаваць Богу, цяпер нічога ім не бракуе. Вялікая мураваная хата, некалькі гаражоў для аўтамабіляў і сельгастэхнікі, усё, чаго пажадае заўсёды закаханая ў зямлю душа шляхціца. Адна бяда, што жонкі няма.**

— Бяда альбо і шчасце, — прабую суцяшаць свайго суразмоўцу.

— Наймалодшы сын захацеў застацца на гаспадарцы, але жонкі так і не знайшоў, — хвалюецца незадаволены бацька, 85-гадовы Леанард Шчансновіч са Шчасновіч.

Маці спадара Леанарда, Леакадыя Горчак, прыйшла сюды замуж з суседніх Гарчакоў, а бабуля, у дзявоцтве Галашэўская, была падвіленскай літоўкай. У Гарчакі прывёз яе дзед, Ян Гарчак — жаўнер на службе ў царскай арміі. Закахаўся. Адзінай у вёсцы літоўцы не было з кім гаварыць на роднай мове, толькі ўнукам часам нейкія словы тлумачыла. Усё-такі кропкай гонару спадара Леанарда з'яўляецца дзед са Шчасновіч, мецэнат Адам Шчансновіч. Хаця вучаны, ад гаспадаркі ніколі не адракаўся. Хату пакідаў толькі тады, калі трэба было ехаць у суд. Гаварылі, што настолькі добра ведаў сваю прафесію, што нават міравога суддзю перамагаў.

— А хто такі міравы суддзя? — пытае мяне спадар Шчансновіч

— Мабыць абаронца, адвакат, — адказваю няўпэўнена.

Так жылося Шчансновічам да 1914 года, да пачатку вялікай вайны. Расейцы спадзяваліся, што праз вёску пойдзе фронт. Загадалі пакінуць хаты, а потым усё спалілі. Каталіцкія Шчансновічы ў бежанства падавацца не хацелі. Пайшлі жыць у праваслаўныя Гаркавічы, якія паўцякалі ўжо да сваіх, значыць, у Расею. У 1918 годзе, калі вайна закончылася, вярнуліся ў спаленыя Шчасновічы. Бацька спадара Леанарда, Вацлаў, паставіў новую драўляную хату, у якой жыў да 1939 года, значыць да мабілізацыі ў польскае войска. Дахаты ніколі не вярнуўся. Спадар Леанард перакананы, што загінуў на вайне. Леакадыя засталася з траімі дзяцьмі. Найстарэйшаму з іх, Леанарду, было тады няпоўных дзесяць гадоў. Звар'яцела, калі спалілася хата спалучаная з хлявом, у якім было сем штук жывёлы і трое коней. Леанарда і матку ўзялі да сябе сваякі з Гарчакоў, сярэдні сын


■ Леанард Шчансновіч

паехаў да бацькавай сястры ў Хлебавічы — цяпер у Рэспубліцы Беларусь, наймалодшы пайшоў у свет вучыцца на ксяндза. Гаспадарку забралі саветы.

— Яны не бралі б гэтай зямлі, — думае спадар Леанард, — але батракі, бедныя суседзі, вельмі хацелі. Нашая зямля была добрая, прыгожа распалажаная. Пайшла ў рукі дэпутата са шчасновіцкага хутара, а той падзяліўся са сваякамі.

— Не думайце, што кажу так таму, што вы праваслаўная, — тлумачыцца спадар Леанард, — але саветы сапраўды добрыя і прыхільныя былі. Кажу тут пра звычайных людзей, не пра ўладу, якая, вядома, мне зусім не падабалася. Меў я суседзяў у савецкай партызанцы, якія дапамагалі нам гаспадарыць на астатніх гектарах. Калегі іх расстралялі за адмову выканаць загад. Добра ўспамінаю беларускую школу ў Гарчаках. Усе дзеці туды хадзілі. Працаваў там спадар Бжазінскі са Львова, які вучыў польскай, расейскай і беларускай мовам.

Найгоршыя былі высылкі ў Сібір. Бралі туды, у асноўным, багатых і чыноўнікаў. Наш сусед Шчансновіч таксама апынуўся на чорным спісе. Выратавала яго Прытыцкая з Гаркавічаў, высокапастаўленая асоба ў Бабіцкім сельсавеце. Шышку з Малявічаў — уцекача з польскай арміі — павезлі за тое, што з бальшавіцкай базы ў Шышках пад Саколкай украў каня і пісталет. Данёс Нядзведзкі — малявіцкі „прадсядацель", якому замарылася зямля Шышкі. У Сібір забралі таксама дзевера спадара Леанарда, шаснаццацігадовага хлопца з Панятовіч, што пад Малявічамі. Знайшоў у альшыне над рэчкай ружжо, пакінутае польскай арміяй, якая ўцякала ад немцаў і бальшавікоў. Нехта з суседзяў прыўважыў.

— Даносілі і даносяць. Ёсць такія людзі. Шчасновіцкія батракі не паспелі абсеяць адабранай багатым суседзям зямлі. У 1941 годзе прыйшлі немцы і вярнулі ўсё паўнапраўным уласнікам.

— Немцы надта нам не дакучалі, але помню адно здарэнне з 1943 года. Не дазвалялася калоць свіней, хіба што заколоць і немцам аддаць, але хто б хацеў карміць акупантаў. Мы ўсё-такі закалолі свінчо, затым зацягнулі ў кусты, каб абмыць і абсмаліць. Усё-такі суседзі прыўважылі. Праз два тыдні ў хаце паявіўся жандар з Адэльска — немец са Шлёнска, які добра ведаў польскую мову, і паліцыянт Эйсмант з непадалёкай Зубжыцы. Жандар — добры чалавек, толькі пажартаваў, пастрашыў, што дзяцей забярэ. „А няхай забірае, — сказала, таксама несур'ёзна, маці, — усё роўна няма іх чым выкарміць". Хутка сарганізавала самагонку і закуску няпрошаным гасцям. „Ты лепш прадай гэта і купі нешта дзецям, а я наемся ў Пракопчыкаў", — адказаў жандар і адправіўся на хутар маміж Хмялеўшчынай і Шчасновічамі. Пракопчыкі былі праваслаўныя, але багатыя. Жандар напіўся і наеўся ў іх уволю. Так напіўся, што застрэліў запрашаючага яго на хрысціны Пракопчыкавага суседа — бацьку новапахрышчанага дзіцяці. На пастарунку ў Зубжыцы жандар загадаў Эйсманту запісаць у справаздачы, што бацьку пахрышчанага дзіцяці забілі банды.

— Хай Бог сцеражэ перад тымі бандамі. Усё забіралі, кралі. Суседзям нават апошнюю буханку хлеба з хаты вынеслі. Адны да другіх стралялі — той з гэтым хлебам пад пахай не паспеў раку прайсці, памёр з нагамі ў вадзе. Ксёндз, сваяк, так нам тое АК пад нябёсы хваліць, але сапраўдных акоўцаў я толькі два разы бачыў. Нічога, акрамя выспятка ў задніцу, ад іх не дастаў.

Спадар Леанард распавядаў сваю гісторыю ў прысутнасці жонкі Ядвігі і сям'і, якая прыехала з Беластока. Гаварыў па-польску. Чаму?

— У хаце было па-просту, але цяпер пераважна па-польску гаворым, — тлумачыць. — А як тут па-просту гаварыць, калі прыехала сынавая — беластоцкі пракурор. Сын таксама высокапастаўленая асоба, спярша ў войску, пасля ў паліцыі, нават камендантам быў. Другі сын займае высокую пасаду ў італьянскім банку ў Беластоку.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

## «Бардаўская восень» завандравала ў Нараўку

Вечарам 5 лістапада гэтага года ў Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы адбыўся канцэрт аднаго з беларускіх бардаў — Сяргея Башлыкевіча з Ашмянаў.



Сабралася шмат любіцеляў беларускай музыкі з Нараўкі, Гушчэвіны, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Падляўкова, Лешукоў, Новага Масева і Семяноўкі. «Бардаўская восень» гэта фестываль для кожнага. Ён праз тры дні (6-8 лістапада) праходзіў у Бельску-Падляшскім, але салісты выязджалі з канцэртамі ў розныя мясцовасці Падляшша, між іншым, у Нараўку.

Паўтарагадзінны канцэрт саліста карыстаўся вялікім зацікаўленнем усіх слухачоў. Бард праспяваў многа песень на словы сваіх вершаў і на словы песні аднаго з яго любімых амерыканскіх бардаў ды пад музыку гітары. Было што паслухаць.

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**

## Сябры „Нівы"

У вёсцы Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны тры нумары (42, 43 і 44) беларускага штотыднёвіка „Ніва" чыталі Эва Дзеніс, Вольга і Вітальд Скепка ды Валянціна Ігнацюк. Два нумары (42 і 43) роднай беларускай газеты прачыталі Ніна і Міхал Целушэцкія ды Ірына і Мікалай Скепка, а нумары 42 і 44 — Раман Марчук.

42 нумар „Нівы" з прыемнасцю чыталі Зіна Садоўская з Новага Ляўкова ды Марыя і Ян Янелі з Плянты. 43 нумарам беларускага часопіса пацікавіліся Алімпія Павільч, Раман Маліноўскі, Зіна Пацэвіч, Вольга Зданоўская-Місяюк і Галена Апольская — усе яны з Нараўкі, Галіна і Юрка Казлоўскія, Людміла і Барыс Казлоўскія ды Андрэй Пучынскі з Новага Ляўкова і Валянціна Самойлік з Плянты.

Усе старонкі толькі 44 нумара ад 1 лістапада гэтага года прачыталі Галіна і Аляксандр Скепка, Марыя і Кастусь Целушэцкія, Марыя і Рафал Харкевічы ды Раіса Баканач з Новага Ляўкова і Альжбета Кунцэвіч з Лешукоў. Больш экземпляраў „Нівы", між іншым 43 нумара, купілі чытачы, бо былі ў ім тры допісы з Нараўчанскай гміны.

У кастрычніку гэтага года жыхары Нараўчанскай гміны купілі 54 экземпляры „Нівы", у тым ліку найбольш з Новага Ляўкова і з Нараўкі.

**(яц)**

„Кірыліцай пісанае"

# Бежанства ў сямейнай міфалогіі

7 кастрычніка 2015 г. у Беларускім музеі ў Гайнаўцы адбылася літаратурная сустрэча з цыкла „Кірыліцай пісанае". У музей прыехала Іаанна Чабан, журналістка „Нівы". Галоўная тэма сустрэчы было „Бежанства ў сямейнай міфалогіі".

Гэта першая вечарына пасля смерці нашага Алёшы Харкевіча, які адышоў ад нас вясной гэтага года. Ён амаль заўсёды прысутнічаў на сустрэчах у музеі. На гэтую не прыйшоў...

Іаанна Чабан нарадзілася ў 1974 годзе ў Саколцы. Журналістка „Нівы", выпускніца Вармінска-Мазурскага ўніверсітэта, University of East London і North Texas University. Настаўніца ў Комлексе школ у Крынках, ад некалькіх гадоў змагаецца з неталерантнасцю да іншых, а таксама да саміх сябе сярод жыхароў Крынак. Ася вядзе таксама дзіцячы калектыў „Зараначка", які складаюць дзеці з Крынак і наваколля. Калектыў выконвае беларускія народныя песні, дзеці вельмі ахвотна сустракаюцца і супольна спяваюць. Паходзіць з Сакольшчыны, адгэтуль яе бацькі. Яна сама, закончыўшы адукацыю, вярнулася на бацькаўшчыну і пачала развіваць усё, што беларускае і роднае.

У музей на сустрэчу з моладдзю Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы Іаанна Чабан „прывезла" ўспаміны пра бежанства жыхароў Крынак і наваколля. Вучні ўважліва выслухалі ўспаміны пра тыя страшныя падзеі 1915 года і пра масавую эвакуацыю белару-



скага насельніцтва ў глыб Расеі. Маладое пакаленне мала ведае пра бежанства і таму дзякуючы такім сустрэчам і, зразумела, заняткам па беларускай мове могуць пашырыць свае веды. Вучням гэта быў штуршок да разважанняў аб складаных і цяжкіх умовах жыцця іх продкаў, вандроўка ў часы „барацьбы" за лепшае будучае.

Другая частка сустрэчы гэта майстар-класы. Пад акампанемент гармоніка і барабана ўсе супольна вучыліся песень, прывезеных з бежанства. Дзякую ўсім прысутным за цікавую сустрэчу.

Сустрэча была сарганізавана пры фінансавай дапамозе Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі.

**Анджаліна МАСАЛЬСКАЯ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# НАЙЛЕПШЫЯ
## Ў ГАЙНАЎСКІМ І БЕЛЬСКІМ ПАВЕТАХ

Школа ў Новым Корніне — камерная. Тут усяго 32 навучэнцы. Усе ўсіх ведаюць па імені, здольнасцях, характары. Тое, што кідаецца адразу ў вочы, гэта добры кантакт паміж вучнямі і настаўнікамі. Адны другіх слухаюць, ставяць пытанні і жыва спрачаюцца. І гэта не «на ўра», а з адчуваннем асабістай культуры і звычаяў. Як атрымалася такая атмасфера?

Аказваецца, гэта вынік вялікай працы і поспехаў.

— Нашы вучні па выніках навучання занялі першае месца ў Гайнаўскім і Бельскім паветах, — кажа дырэктар Ева Мароз, — а ў маштабе ваяводства мы апынуліся на сёмым месцы. Гэта вялікая радасць і матывацыя да працы.

— Як гэта магчыма?

— Калі ёсць з кім працаваць, — кажа спадарыня дырэктар, — усё магчыма!

Поспех у навуцы гэта натхненне для новых выклікаў, задач і прыгод. Першай і вялікай прыгодай будзе экскурсія ў Беларусь. Наведаюць памесце Дзеда Мароза і прыродазнаўчы музей. У планах таксама экскурсіі ў Скарышэва і Рыбалы. Там пазнаёмяцца з падляшскай этнаграфіяй, нарваўскай прыродай і цікавымі людзьмі. У школе амаль усе вывучаюць беларускую мову, якую вядзе настаўніца Ніна Куптэль.



Фота Ганны Кандрацюк

Нашы сябры амаль усе падпісаліся на „Ніву", таму заахвочваць чытаць „Зорку" і беларускія кніжкі не было патрэбы. Вучні самі ведалі, што беларуская мова для іх важная і патрэбная:

— Калі на радыё ішоў «канцэрт пажаданняў», я пазваніла і сказала пажаданні для маёй мамы, — сказала адна вучаніца.

— А на якой мове, — спыталі мы, — гаварыла ты пажаданні?

— Вядома, па-беларуску!

Гэты адказ яшчэ раз пацвердзіў, што размаўляем з найлепшымі навучэнцамі ў Гайнаўскім і Бельскім паветах. **Зорка**

**Вікторыя ПАТОНЕЦ**
Старое Ляўкова, ПШ у Нараўцы

### Акно

Праз акно выглядаю
І ўсе поры года знаю.
Прыйшла восень
з каляровымі лісточкамі,
Хутка іх паскідала
І зіму халодную прывітала.
Зіма зямлю белым пухам заслала
І вясну чакала.
Зялёныя лісточкі на дрэвах
Павырасталі і лета чакалі.
Прыйшло лета гарачае.
Птушкі прыляцелі
І вясёлыя песні
У свет паляцелі.



Уля Падгаецкая і Эліза Матус, аўтаркі Зоркі

## Загадкі з роднай хаткі

## УВАГА КОНКУРС! № 46-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 22 лістапада 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**І ў сто гадоў ён малады,
на зіму мядзяны кажух апранае.
Корміць дзікоў і казуль,
у маі лісткі выпускае.
Д..**

**Моўчкі ідзе,
Моўчкі ўпадзе,
Моўчкі ляжыць,
А памрэ — бяжыць.
С...**

**Адказ на загадкі № 39-15: дзядоўнік, радыска. Узнагароды, майку з лагатыпам Радыё Рацыя і буклет пра расліны з Чырвонай кнігі, выйграла Альжбета Харкевіч з Нараўкі. Віншуем!**

## ЯК ЧАЛАВЕК ГУСЕЙ ДЗЯЛІЎ
*(украінская казка)*

У адным сяле жылі мужык і пан. У багатага пана ўсяго хапала, а бедны ледзь канцы з канцамі зводзіў. Дажыўся ён дагала, адна гуска засталася. Што рабіць? Як сям'ю пракарміць? Думаў ён, думаў, ды кажа жонцы:

— Сасмаж гуску!

Сасмажыла ў печцы жонка гуску і паставіла яе на стол.

Гаспадар кажа:

— Не будзем мяса без хлеба есці. Лепш, занясу пану. Можа на хлеб абмяняе.

— Ідзі! — кажа жонка.

Прыйшоў чалавек да пана і кажа:

— Я прынёс вам смажаную гусь. Можа ўзамен які бохан хлеба дасце? У хаце ўсе галадаюць, дзеткі плачуць.

— Добра, — кажа пан. — Толькі падзялі справядліва гуску на ўсю сям'ю. У мяне жонка, двух сыноў і дзве дачкі.

Спачатку чалавек адрэзаў галаву і падаў яе пану:

— Вы гаспадар, — сказаў, — вы галава ў хаце. А пані — ваша па-

працяг ☞

№ 46 [15-11-2015]

# Учора прыбіралі пад касцёлам, сёння — на жыдоўскіх могілках

Гімназісты-першакласнікі Комплексу самаўрадавых школ у Крынках сталі піянерамі новай ініцыятывы ці, як некаму падабаецца, піянерамі яе рэактывацыі. Падобныя дзеянні адбываліся ўжо ў іх роднай адукацыйнай установе, але было гэта дастаткова даўно.

Прыбіраннем жыдоўскіх могілак пачынаецца школьны маштабны праект пад загалоўкам „Здаровае заўтра — супрацьдзеянне сацыяльным паталогіям". І не ідзе тут толькі пра бутэлькі з-пад гарэлкі ці піўныя бляшанкі, пакінутыя на магілах.



У рамках запланаванага цыкла сустрэч будзем гаварыць пра пагрозу, якая вынікае са злоўжывання алкаголем, будзем прадухіляць праявы варожасці да прадстаўнікоў іншых, чым польская, культур і народаў. Пашукаем рэмедыуму на спакой і супакой у нашым гарадку, краіне і па-за яе межамі. Гэта асабліва важнае ў абліччы цяперашніх падзей у свеце.



Адзін з падраздзелаў гэтага праекта — „Прысутныя адсутныя" — жыхары Крынак жыдоўскай нацыянальнасці. След іх застаўся толькі на могільніку. Варта паклапоціцца пра гэтае месца, а таксама нешта пра іх даведацца.

Першы крок ужо паставілі. Закончыўшы парадкаванне, нехта сказаў, што ў будучыні будзе прыбіраць толькі каталіцкія могілкі, а на жыдоўскія ўжо ніколі не прыйдзе. Шчыра выказаў свае думкі, але ж гэтая дарога, да так патрэбнага нам спакою, ніколі не давядзе. А, сваёй дарогай, вясной усё роўна зноў прыйдзецца яму парадкаваць той жа жыдоўскі могільнік.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

## Вершы Віктара Шведа



### Прайгралі нашы

Унучак засмучоны
Вярнуўся са стадыёна.
— Добра табе, бабуля,
На спорт зусім нячулай.

Быў здзіў адначасова
Пачуўшы бабы словы:
— Бачу, сумуеш, Саша,
Прайгралі сёння нашы.

### Засталася адна муха

Настаўніца кажа:
— Паслухай:
Калі чатыры мухі
Па стале хадзіла
А я адну забіла,

Колькі мух засталося
На стале, скажы Зося:
— Па-мойму, адна менавіта,
Якая была забітай.

мочніца. Вы адно, як галава ў чалавека.

Для сыноў адрэзаў ногі

— Вы маладыя, вам трэба шмат дзе бываць, хадзіць, ездзіць. Вось, каб было лягчэй, атрымаеце па назе.

Пасля адрэзаў крылы і падаў дачушкам:

— Вы не заўсёды будзеце з таткам і мамкай, калісь прыйдзецца з хаты адляцець. Замуж пойдзеце. Ды вам, прыгажуні мае, па крыльцу! А ўсё што засталося, бяру сабе...

Пан належным чынам ацаніў інтэлігенцыю мужыка і загадаў даць яму хлеб.

Навіна мігам свет абляцела. Пачуў пра здарэнне багаты мужык, зарэзаў пяць гусей і завалок для пана, каб штосьці атрымаць.

— Дзякую, — кажа пан, — дзякую! А цяпер раздзялі справядліва пяць гусак між маю сям'ю.

Доўга думаў багач, нічога не прыдумаў. Паклікаў пан беднага мужычка і пытае:

— А можа ты справядліва раздзеліш гэтыя пяць гусей?

— Добра, — адказаў селянін.

Узяў ён адну гуску і падаў яе ў рукі пана і яго жонкі.

— Вас двое і адна гуска, дык зараз вас трое.

Другую гуску ён уручыў сынам:

— І вас цяпер трое!

Трэцюю атрымалі дочкі.

— І вас трое.

Апошнія дзве гускі мужык прызначыў сабе і сказаў:

— І зараз нас тут ужо трое.

Спадабаўся пану падзел, ён засмяяўся і кажа:

— Ну, малайчына, ты! Вельмі справядліва падзяліў ды пра сябе не забыў.

Ён даў беднаму хлеб, а багатага прэч прагнаў!

***(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)***

## Польска-беларуская крыжаванка № 46-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 42:**

Як, вяз, док, вагон, арка, сяло, кола, напрамак, нос, крата, езда. Яр, вянок, паласа, Іво, рот, Янка, ом, ала, наказ, сок, кабыла.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Дамініка Сікора, Клаўдзія Сікорская, Конрад Казлоўскі** з Міхалова, **Іаанна Нікіцюк, Кацярына Лаўрашук** з Бельска-Падляшскага, **Сара Скаўронская** з Беластока. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Klasa | Mniej | | | |
| | Szczyt | Płot | | Antena | | Mgnienie / Hart | |
| | Plan / Proza | | | | | Ekran | |
| Pępek / Tablet | | | | | | | |
| Wzrost | | | | | | | Era |
| | | | Jak | | Re | | |
| But / Znaczek | | Bursztyn | | | | | |
| | | | | | Bierz | | |

# Bulbamovie ’15

Сёлетні, пяты, выпуск Варшаўскага беларускага кінафестывалю «Bulbamovie» адбыўся ў ценю аб'явы ўступлення ў сілу ўказа прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі «Аб мерах па дзяржаўнай падтрымцы і стымуляванні развіцця кінематаграфіі ». Паводле яго, вытворчасць любых фільмаў у гэтай краіне зможа праходзіць толькі са згоды Міністэрства культуры, а за выдачу дазволу будзе спаганяцца аплата (немалая), і зацвярджэнні будуць выдавацца толькі пасля ацэнкі сцэнарыяў спецыяльна прызначанай камісіяй. Такім чынам, усё больш і больш дынамічна развіваючамуся беларускаму незалежнаму кіно пагражае пацыфікацыя — такія фільмы могуць атрымаць статус нелегальных. Назіральнікі беларускага кінематографа, аднак, сцвярджаюць, што ўказ можа прынесці іншы эфект: супрацiў фільмоўцаў і выбух гэтак званай новай хвалі беларускага кіно.

Асноўная частка — конкурсная — фестывалю сёлета адбывалася ўпершыню ў Мінску. У апошні дзень польскай яго часткі паказалі тры ўзнагароджаныя фільмы ў Варшаве, г.зн. «Адной крыві» Мітры Сямёнава (таксама прыз гледачоў), «Пасху» Дар'і Юркевіч і «Консьержа» Роберта Сенекі. На думку культуролага, кіназнаўцы і суарганізатара беларускай часткі фестывалю Максіма Жбанкова, кінапраекты беларускага незалежнага кіно, прадстаўленыя на «Bulbamovie» пазбаўлены савецкіх клішэ, а сам фестываль — свайго роду анты-Беларусьфільм.



■ Фестывальная дыскусія (злева направа): Вофка Салавей, Януш Гаўрылюк, Роберт Экштэйн, Мікіта Лаўрэцкі, Ганна Крупа (вядучая сустрэчу).

## Вачыма італьянца і немца

У варшаўскім культавым кінатэатры «Муранаў» 23-25 кастрычніка прадставілі фестывальную гэтак званую праграмную частку: сем фільмаў. Праграма ўключала ў сябе дакументальныя погляды на сучасную Беларусь вачыма італьянца — «Зроблена ў BY» у рэжысуры Луіджы Мілардзі і немца — «Капусны касмічны карабель» Роберта Экштэйна аб вар'яцкім туры сербска-лужыцкай музычнай групы з Берліна па закутках беларускай правінцыі. Паўгадзінная ўкраінска-амерыканская метражка «Міна» ў рэжысуры Вофкі Салавея з Лос-Анджэлеса, з дзеямі ў ваенным Данбасе, у сваю чаргу гэта фільм са здымкамі беларускі, студэнткі Акадэміі кіно ў Нью-Йорку Аляксандры Мясніковай. Расказвае пра маладога адчайнага чалавека, які мусіць перадолець мноства перашкод, каб уцячы з ахопленага вайной Данбаса і здзейсніць свае мары. У рамках фестывалю ў Варшаве адбылася таксама прэм'ера агульнабеларускага кінапраекта «Хранатоп». Праект складаецца з кароткіх эцюдаў розных рэжысёраў, якія намалявалі міфалагічную карту сучаснай Беларусі. Больш падрабязна аб гэтым праекце мы пісалі ў «Ніве» з нагоды прэзэнтацыі беларускага кіно ў жніўні мінулага года, у Бяндзюзе, арганізаванай па ініцыятыве Фонду «Сундук» Януша Гаўрылюка. Гледачы таксама маглі глядзець неаднаразова ўзнагароджваны гадзінны дакументальны фільм Анастасіі Мірашнічэнкі «Раздарожжа». Гэта гісторыя пра Валерыя Ляшкевіча, бяздомнага мастака, які жыве на вакзале і больш за дваццаць гадоў малюе карціны на вуліцах Гомеля. Стваральнікі фільма хацелі паказаць, што эксцэнтрычны мастак і філосаф ведае шмат важных ісцін пра сэнс жыцця. Пасля поспеху фільма на міжнародных кінафестывалях, рэжысёрцы, дзякуючы падтрымцы многіх людзей, атрымалася сабраць сродкі на куплю кватэры для мастака.

## На энтузіязме

Падчас фестывалю Януш Гаўрылюк, галоўны арганізатар і ініцыятар мерапрыемства сцвярджаў у размове з «Нівай»:

— У незалежным беларускім кінематографе ў апошні час наступілі вельмі вялікія змены. На наш фестываль заяўлены былі сорак сем фільмаў. Я шкадую, што ўсіх дванаццаці фільмаў у конкурсе, што мы паказваем у яго рамках у мінскім Цэнтры сучаснага мастацтва, не прэзентуем у Варшаве. У першым выданні «Bulbamovie» мы бралі ўсе фільмы, якія заявілі самі аўтары. Было іх так мала і былі адарваныя ад беларускай рэчаіснасці. Цяпер відаць, што незалежныя фільмоўцы ў Беларусі зразумелі, што не трэба «лётаць у космас», каб зрабіць цікавы фільм і варта рабіць іх пра тое, што блізка, вакол іх. І гэта прыкметна ў гэтым годзе, таму што пару фільмаў кранае тую беларускую рэальнасць. У выніку, гледачы могуць пазнаёміцца з Беларуссю інакш, чым з газетных або тэлевізійных навін.

Дадаў, спасылаючыся на сёлетні выпуск фестывалю, які адбыўся ў польскай сталіцы — як сам сказаў — амаль выключна на энтузіязме:

— Калі мы атрымалі грант Міністэрства замежных спраў, спадзяваліся, што ўдасца нам пашырыць фестываль на іншыя гарады. Здабывалі мы грошы з польска-беларускай праграмы, але яе ўжо нечакана няма. Ёсць з назвай «Усходняе вымярэнне знешняй палітыкі». Не існуе больш такая спецыяльная польска-беларуская праграма, якая першапачаткова была запланавана на шэсць гадоў, так што тэарэтычна павінна працаваць на працягу яшчэ двух гадоў. У цяперашні час у гэтай перайменаванай праграме могуць аплікавацца праекты, звязаныя таксама з іншымі ўсходнімі краінамі, такімі як Украіна, Малдова ці Грузія, і з польска-беларускіх праектаў грошы атрымалі ў гэтым годзе толькі арганізатары двух музычных праектаў: фестываль «Басовішча» і канцэрт «Салідарныя з Беларуссю».

Сярод фільмаў, паказаных у «Муранаве», былі два 21-гадовага Мікіты Лаўрэцкага, надзеі беларускага незалежнага кіно, ужо названага яго адкрыццём. Януш Гаўрылюк:

— Я такіх фільмаў чакаў. Дзея адбываецца ў Мінску рэальным, а не буклетным. У той жа час Мікіта вядзе сваіх герояў у такія дзіўныя эмацыйныя міжасобасныя закуткі. Зачараваны ён плынню амерыканскага незалежнага кіно «mumblecoros», дзе спецыяльна псуюць здымкі, каб былі непрыгожыя, а фільмы рэалізуюць без грошай.

Першы з яго паказаных фільмаў гэта дваццаціпяціхвілінная метражка «Poetry», зрэалізаваная пры выкарыстанні праграмы «Skype». Былая пара (хлопец і дзяўчына) пішуць вершы і «адчуваюць невытлумачальную сінхроннасць анлайн». Другі — «American boy» з'яўляецца дваццаціпяціхвілінным выдуманым апоpower, у якім галоўны герой Максім сустракае свайго прыяцеля Янку, якога не бачыў на працягу года, а той у гэты час вучыўся ў Злучаных Штатах. Максім тужыць па паміраючым вобразе старога Мінска... Як адзначаюць назіральнікі маладога беларускага кінематографа, фільмы Мікіты Лаўрэцкага характарызуюцца тонкім пачуццём часу, прасторы і штодзённага жыцця, свядома папсаваным вобразам і вялікай дозай іроніі апавядальніка. Меланхалічна расказваюць пра пошукі няяснай ідэнтычнасці і месца ў свеце.

## Безбюджэтнік

У гутарцы з «Нівай» рэжысёр распавёў, чаму рашыў заняцца кіно:

— З дзяцінства я хацеў здымаць фільмы. Тады я адчуваю сябе вольным. Я рэалізую іх для звычайных людзей. Тое, што хачу, тое і рэалізую. Перш за ўсё таму, што я раблю безбюджэтныя фільмы, так што я шчаслівы рэжысёр. Я вельмі сентыментальны. Калі я бачу нешта сумнае, гэта робіць мяне сумным. Што цікава, дык гэта не боль, а такая салодкая настальгія. Такія ж і мае героі.

Мы папрасілі яго ацаніць стан беларускага афіцыйнага кіно:

— Афіцыйна на працягу года знялі некалькі дробных меладрам, ну, можа яшчэ дзіцячыя фільмы. Нават пра вайну ў апошні час нічога не круцяць. Паяўляюцца часам некаторыя буйныя творы, як у апошні час, «Мы, браты» [меў быць адказам на фільм «Жыве Беларусь», сабекошт вытворчасці — 2 500 000 долараў, фільм быў прыняты ў мастацкім аспекце гледачамі і знатакамі кіно вельмі крытычна і фінансава прынёс страту — М.Х.]. Так незалежнае, як і афіцыйнае кіно рассеяныя, таму немагчыма іх ацаніць як з'яву — ні тое, ні другое. Няма такога паняцця, як беларускае кіно з некаторымі выразнымі яго адметнымі рысамі. Часам у апошнія гады здаралася ў афіцыйнай асноўнай плыні рэалізаванае Беларусьфільмам аўтарскае кіно, напрыклад, Андрэя Кудзіненкі. У Францыі, напрыклад, была «новая хваля», якая была прадстаўлена цалкам іншымі, аўтарскімі фільмамі Эрыка Рамера, Франсуа Труфо і Жана-Люка Гадара. Магчыма, калі-небудзь у Беларусі паявіцца трох такіх яркіх рэжысёраў і тады можна будзе казаць пра беларускае кіно.

Ён таксама спаслаўся, калі мы спыталіся ў яго наконт прапанаванага ўказа прэзідэнта Лукашэнкі аб кінавытворчасці ў Беларусі:

— Мае ён увесці платныя ліцэнзіі для кожнага тыпу кінавытворчасці, у той час як пад гэтае паняцце падлягае фільмавая вытворчасць — уся, нават фільмы відэа, якія ставяць дома і паказваюць у інтэрнэце. Гэты ўказ яўна недарэчны. Нават калі ўказ уступіць у сілу, у любым выпадку — калі паглядзець на сусветны кінематограф — тычыцца ён стадыі, якая прайшла. Прыкладам гэтага іранскі рэжысёр Джафар Панахі, якому ў 2010 годзе рашэннем іранскага суда забаранілі здымаць кіно. З тых часоў ён зрэалізаваў ужо тры фільмы, абыходзячы забарону, паказваючы іх і перамагаючы на кінафестывалях, як у Берліне, дзе ён паказаў фільм «Таксі», які быў зняты відэарэгістратарам у аўтамашыне. Так будзе і з указам Лукашэнкі. Знойдуцца спосабы, каб яго абысці, калі стане ён рэальнай перашкодай. Уся цэнзура ў Беларусі бессістэмная. Маюць справу з ёю выпадковыя людзі, якім прыходзяць у галовы выпадковыя думкі і ідэі. Дзяржаўнай ідэалагічнай сістэмы годнай гэтага імя не ўдалося нават пабудаваць. І на шчасце. Не існуе пэўная логіка ў беларускай сістэме, таксама звязаная з кінематографам.

Варшаўскую частку фестывалю суправаджаў канцэрт гурта «**Berlinska Dróha**» і дыскусія з удзелам Януша Гаўрылюка, Вофкі Салавея, Роберта Экштэйна і Мікіты Лаўрэцкага. Роберт Экштэйн, родам з Берліна, выступіў на мерапрыемстве:

— Я быў зачараваны адкрытасцю сэрцаў і розумаў у беларусаў. Я прывык, што ў Нямеччыне людзі, з якімі я размаўляю, расказваюць пра сябе, пра тое, што ў іх. У Беларусі наадварот. Людзі хацелі, каб гэта я расказваў пра свае пачуцці, уражанні. У Беларусі людзі рэжымам Лукашэнкі адгароджваюцца ад Еўропы, але больш, чым на Захадзе, пабудавалі сувязь паміж сабою. Яны ўтвараюць супольнасць непаўторнымі сувязямі. Я збіраюся вярнуцца ў Беларусь і ствараць там музычныя фільмы. У бліжэйшы час — з камандай «Дзецюкі».

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Высяленне з пушчы (3)

Сёлета адзначалася сямідзесяцігоддзе завяршэння Другой сусветнай вайны: сямідзесяцігоддзе перамогі над нацысцкай Германіяй. Нацысцкая дзяржава была наладжана паводле нацысцкай ідэалогіі: якая адклікалася да старагерманскай гераічнай міфалогіі з „чыстымі расава" волатамі. Насельнікамі новай утопіі мелі быць чыста „арыйскія" немцы: а ў лясах, у выніку расавай апантанасці, мелі паявіцца зрэканструяваныя шляхам генетычнага скрыжоўвання вымерлыя віды жывёл, у іх ліку туры. Узорным арыйскім раем мела стаць тэрыторыя Белавежскай пушчы. На захаваным здымку з берлінскай міжнароднай паляўнічай выставы 1937 года Герман Герынг: другі пасля Гітлера ў фашысцкай іерархіі, пахіляецца над макетам Белавежскай пушчы, побач якога тураў рог...

Мікалай Раманчук: — Пасля высялення Ціхаволі ў канцы ліпеня 1941 года, паставілі немцы малацілку ў нас на панадворку і савецкія палонныя малацілі, і веялі, збожжа бралі ў мяшкі і немцы некуды яго вывозілі. Дзве трэці Ціхаволі было спалена, а той кончык ад царквы яшчэ астаўся. І ў гэтым кончыку акурат наша хата была. Тата атрымаў у ялоўскага нямецкага камісара пропуск у Ціхаволю, бо яшчэ агароды былі невыкапаныя, і хацелася дзе што з агародаў сабраць. Яшчэ на нашым гарышчы вокны падвойныя былі, а забіраць нельга было — маглі б забіць. Але тата зарызыкаваў. Хутчэй з агарода забраў, што там было дазволена браць, ускочылі на гарышча, вокны спусцілі, і на фуру, завалілі іх зверху і прывезлі ў Навасады. А пасля вайны, як хату ў Масеве паставілі, то і тыя вокны прыдаліся. Дзесьці два дні пасля таго, як тата прывезлі тыя вокны, пайшла вестка, што Ціхаволя гарыць, той кончык, што яшчэ астаўся. А царква яшчэ стаяла, але як немцы спалілі нашу частку вёскі, то і царкву спалілі.



Фота з асабістага архіва Мікалая РАМАНЧУКА

■ Жыхары Ціхаволі вывозяць калоды з Белавежскай пушчы ў міжваенны перыяд

А як тая наша частка загарэлася? Як тыя палонныя малацілі там, то загарэлася ўся салома, магчыма, што ад іскры з рухавіка. І згарэў наш канец вёскі без удзелу немцаў. Зноў тата едуць туды па сена: пару капіц у Чола, а рэшту сабе. У Чоле было надлясніцтва і ў тых будынках пасля вайны саветы наладзілі заставу. Калісь у Чоле быў пан, то як мы пры немцах атрымлівалі пропуск ад камісара ў Ялоўцы і можна было ехаць у Ціхаволю і пратаць сенажаць, то траціну трэба было аддаваць пану бо там паляўнічы промысел быў. То мы, як наклалі, для прыкладу, дванцаць капіц, то ўжо шэсць трэба было завезці ў Чола. І едуць тата каля царквы, а там немцы сагналі мо каля пяцідзесяці палонных, паставілі ў радок. Ідзе немец і лічыць: дзесяць, і за каўнер выцягае. І чарговага дзясятага за каўнер выцягае. І паказвае: да кустоў бяжы. І пачне бегчы, то страляюць па ім. Такім чынам можа шэсць ці сем чалавек забілі. Тата, калі вярнуўся, то дзве ночы не мог спаць пасля гэтага...

А як саветы гналі немца, то мы каля лонкі хаваліся з каровамі. Бо ж мелі ўласаўцы прыехаць у Ялоўку і забіраць з вёсак усю жывіну, а ніхто пра гэта не ведаў. Я аднойчы бачу: немец да нас, на калёніо ідзе. Цётка выйшла з хаты і пытае: „Што пану трэба?". А той гаворыць па-руску: „Пашукайце, хазяюшка, літар водачкі, то я вам скажу важную навіну". Цётка выпіраецца: „А што ж вы мне скажаце, калі ў мяне водкі няма". „А я вам такое скажу, што вам і дванцаць літраў даць аплаціцца". Ну і выграбла адкульсь цётка тую гарэлку, бо ж у час акупацыі гарэлку заўсёды трэба было мець і самагонку гналі добрую. „То цяпер я вам скажу, — гаворыць той госць. — Узаўтра з досвітку забірайце якую толькі маеце жывіну, коней і кароў — бо авечак і свіней яны ў прынцыпе не бралі — каб не было ў хлявах, каб не было відаць. Толькі пра гэта нікому не гаварыце!". Ну, але ж можна было пра гэта сказаць, прынамсі найбліжэйшым — дзядзьку ў Навасадах; але не сказалі і дзядзькаў дабытак забралі. Ну, нічога не кажам і на досвітку, яшчэ цёмненька, праз чыгуначную лінію, што з Нараўкі ў Свіслач ідзе, там пад лініяй была пратока, немцы там не хадзілі перад самім фронтам, і мы тою пратокай жывіну на пашу загналі. І праўда — з раніцы занялі Навасады аж ад Залешан і ўсё, што было, сталі зганяць дабытак тыя ўласаўцы і пагналі далей. Але не толькі мы ведалі пра гэты захоп — мо яшчэ дванцаць-трыццаць адсоткаў людзей ведала і вывела сваю жывёлу на пашу.

Як фронт ішоў, то немцы туды не даставаліся, а саветаў усюды поўна шамрэла. Мы яшчэ на пашы сядзелі, а ўжо ішоў нямецкі поезд і рваў чыгунку. І чыгуначны мост на Нарве ўзарвалі і паехалі далей. А саветы ўсюды далезлі. Паставілі перад пашай гармату, а перад Семяноўкай былі траншэі, і дзе ў балаціне былі грудочкі, там саветы стаўлялі гарматы і ўсё па тых траншэях пукалі. То як снарад узарвецца, то аж прыгне да зямлі, а там, у траншэях, адно пыл.

Нашага коніка тата схаваў у кусты, а той конік надта нецярплівы быў, заіржаў, а той савет зараз: „От, хароша лошадзь". Тата тлумачыць, што мы высяленцы, што нас немцы вывезлі, што гэта ўся наша маёмасць. „А ты сабе знойдзеш, — адказаў, — будуць нашы ісці, худыя коні ў іх, то табе дадуць; я табе спраўку выпішу". Выпісаў спраўку, што дня такога і такога забралі лошадзь. І сеў наверх і паехаў. А наш конік сыценькі быў, харошы. А дарогаю, гасцінцам ад Нязбодзіч цераз Шымкі на Юшкаў Груд пачалі ісці пераважна амерыканскія самаходы, бо чыгунка не хадзіла, пакуль мост у Семяноўцы зрабілі. Выганялі ўсіх з вёскі і загадвалі караваць калоды для моста. У рускіх такіх самаходаў не было; ну, былі можа паўтаратонныя браскатухі, а амерыканскія хіба пяцітонныя былі. І цэлымі днямі і начамі ішлі пастаўкі фронту, каляіны павырэзвалі. Каля гэтае дарогі, на калёніі, жыў мой дваюрадны брат. І тата папрасіў яго, калі войска будзе ісці, каб узяў якога коніка. Ён даў рускім літр гарэлкі і далі яму. Той конь вялікі быў, здаровы, але ўжо ледзь нагамі мяняў, такі дабіты быў. Пасля то ён еў усё: і сена, і салому нават. Мы яго адхойкалі і сталі ўжо ездзіць у Ціхаволю. Там дзядзька таксама такога каня меў, але кавалерыйскага, мангола. І дзядзька захацеў прыпрэгчы таго свайго коніка да нашага, каб лягчэй ім было. Прыпрэглі, а той як стаў вішчэць, як стаў задам смаліць. То тата кажа: „О, мой больш пацягне сам, як з такою прыпрэжкай...".

Мы з татам паехалі пасля праходу фронту з Навасад у Ціхаволю. А да вайны шмат ціхавольцаў працавала ў Дабраволі, можа з дзясятка ціхавольцаў там была. І тыя з Дабраволі ўжо вярнуліся ў Ціхаволю, у лес на працу яны пад акупацыяй хадзілі. Пры немцах крыху ў лесе рабілі, у Гайнаўку везлі драўніну, і ў Германію вывозілі. Заязджаем сваім канём у Ціхаволю, а там нашы суседзі ўжо пілуюць драўніну. Мы з татам таксама давай вазіць драўніну на свой пляц; у нас быў цэментны свіран і той свіран астаўся, толькі не было ў ім даху. Але мы са свіранам нічога не рабілі, найперш драўніну звозілі. Задумалі сена нагатовіць, каб было на што вярнуцца. Скасілі бацюшкаву сенажаць, бо ніхто яе не касіў, трава стаяла. Тры фуры сена накідалі ў стог. Але найперш дзерава, найперш думалі хлеў паставіць, а каля хлява такую прыбудоўку сабе, пакуль хату. Навазілі дзерава на хлеў. А ж лядаў не было, то жалязняк пераварочвалі на бок, туды калоду накочвалі і разам з возам на колы стаўлялі.

А ў Ціхаволі нямецкі камісар з Белавежы быў зрабіў на нашым полі каля Нямержы аэрадром. І там была трава роўненька выкашана. Палоскі раней былі: адзін год жыта, другі бульба, а трэці ярына. Мы сваю палоску пазнавалі так: там, дзе межы былі, была бялейшая трава, а дзе палоска — зеленейшая. Мы выаралі сваю палоску тым канём. Забралі ад солтыса ў Дабраволі сваю веялку; у нас да вайны была такая арфа, быў дзедаў развэрак, і млынок быў. І як нас вывезлі, то людзі ўсё тое парасцягалі, таксама коней і кароў немцы папрадавалі. Прывезлі мы веялку ў Навасады, навеялі збожжа, узялі два метры і выбраліся ў Ціхаволю жыта сеяць на той узаранай палосцы: было гэта восенню 1944 года. Як веялку везлі ў Навасады, то ўжо на дарозе з Нязбодзіч у Шымкі патруль стаяў, двух пагранічнікаў: „Вы адкуда і куда?" — „А я вось туды, да швагра: вось туды, дзе чырвонаю дахоўкаю хата крыта. Я тут у швагра жыву, а еду з Ціхаволі". „А адкуль гэтую машыну вязеш?" — „Як нас вывозілі, то чалавек з Дабраволі ў нас яе ўзяў, а цяпер аддаў, бо яна наша". „Ну, харашо, але мы цябе не прапусцім." „А чаму?" У іх быў тэлефон, на кусце дрот вісеў. Спыталі камандзіра, ці прапускаць нас. Камандзір загадаў прыйсці нам да яго: „Ідзі да нашага камандзіра". „А дзе ён жыве?" — „А там, кіламетр адсюль". Тата схадзіў да яго, растлумачыў усё і ён пазваніў сваім пагранічнікам, каб прапусцілі. Ну то мы падумалі, што калі раз прапусціў, то і далей будзе прапускаць. І мы са збожжам зноў едзем, цяпер у Ціхаволю. Заязджаем на той самы пастарунак: „А вы куда?" — „У Ціхаволю жыта сеяць". Тата зноў да таго камандзіра пайшоў... „Нікуда ты не паедзеш. Тут ужо граніца, і калі хочаш вярнуцца ў Ціхаволю жыць, то трэба афармляць дакументы, і не сюдою ўжо трэба будзе ехаць, толькі цераз Баброўнікі". Растлумачыў яшчэ, што дзе трэба афармляць і — цераз Баброўнікі. Ну і як цяпер быць? У той час ужо сталі ў войска прызываць, яшчэ тата з дзядзькам у Свіслач на зборны пункт ездзілі. І бралі амаль усіх, толькі прыйшоў загад, каб тых, што з польскага боку граніцы, не браць. І з польскага боку ўсе папрыходзілі дахаты, а тых, з таго боку граніцы, усіх на фронт пагналі. З Ціхаволі палову людзей на фронце пабіла; добра, што мы не паехалі. А яшчэ напісалі нам сваякі, што ў Ціхаволі калхоз арганізуюць, то ўжо нам адхацелася туды вяртацца. Прыйшоў да нас сваяк, Петрушкевіч, які ў Луцэ жыў, і кажа: „Дакуль мы будзем тут сядзець: у Масеве больш за палову людзей за граніцай асталося: і палоскі іхнія ляжаць, і пляцы...".

У Масеве да вайны было многа балахоўцаў, і ў Ціхаволі. У Масеве быў Кушняроў, добры каваль. А ў Чоле быў афіцэр Міхаіл Антропаў, то яго саветы забралі, бо царскім афіцэрам быў. Ён ад рэвалюцыі ўцёк у Польшчу яшчэ кавалерам, пасля тут ажаніўся з каталічкай і працаваў сакратаром у надлясніцтве ў Чоле. І так ён прапаў, толькі помнік каля царквы стаіць. А Набокаў працаваў на гаспадарцы ў Ціхаволі, прыстаў да нейкае бабы, але ён штось у рэвалюцыю наразрабляў. Якая баба мела добрую зямлю, то нават найгоршая брала добрага балахоўца. І той Набокаў толькі адно пісьмо да жонкі прыслаў, каб яму сухары прыслала. І больш ад яго ніякіх звестак не было.

Паехалі мы з Навасад у Масева, афармілі сабе пляцы і сталі загатаўляць дзерава. Мы хацелі будавацца ў Замошах, навалачылі туды дзерава, але ляснічы Філіновіч нам сказаў, каб мы шукалі пляц у Масеве, бо ў Замошы можа што станучь будаваць і нас адтуль могуць выдварыць. І мы яго паслухалі і пабудаваліся ў Масеве.

(працяг будзе)

Запісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# 15 гадоў у Беластоку

Час бяжыць вельмі хутка. Здаецца, нядаўна я вучыўся ў белліцэі ў Бельску, а тут 1 кастрычніка мінула 15 гадоў як я прыехаў у Беласток і пачаў вучыцца на першым курсе беларускай філалогіі. Пачаў я тады жыць у студэнцкім інтэрнаце па вуліцы Кракаўскай у Беластоку. На ўніверсітэт па вул. Лінярскага я меў блізка — усяго 10 хвілін пехатою. Тую ж самую дарогу я меў, каб схадзіць у Свята-Мікалаеўскую царкву, у маркет «Biedronka» або на аўтавакзал, каб паехаць на выхадныя да бацькоў на вёску.

У інтэрнаце я адразу пазнаёміўся з Аляксеем, які нарадзіўся ў Мінску, а жыў з бацькамі ў Гожаве-Велькапольскім. Дарэчы, бацькі Аляксея неўзабаве перабраліся жыць на Беласточчыну ў вёску Гацькі. Моцна мы пасябравалі з Алёшам, які вучыўся паралельна са мною на першым курсе, але на рускай філалогіі. Пад маім уплывам Алёша дадаткова закончыў беларускую філалогію.

На рускай філалогіі вучыўся яшчэ мой сябра з часоў белліцэя — Андрэй. Ён таксама жыў у інтэрнаце на Кракаўскай. Мы з Аляксеем часта наведвалі Андрэя ды разам святкавалі, вучыліся, хадзілі ў бібліятэку. Цераз Андрэя я пазнаёміўся з яго сябрам — аднакурснікам Янкам з Дубровы-Беластоцкай. Мы моцна пасябравалі. Дарэчы я заўсёды з Янкам, як і з Аляксеем, размаўлялі па-беларуску. Янка часта мне пазычаў аўдыёкасеты з беларускай музыкай. Мы з Янкам і Андрэем у кожны аўторак хадзілі ў царкву на акафіст у гонар Дзіцяткі Гаўрыіла. Нейкі час пазней, каб пазнаць больш «сваіх», я пачаў хадзіць на мерапрыемствы праваслаўнага брацтва, якое сустракалася ў Цэнтры праваслаўнай культуры па вуліцы св. Мікалая ў Беластоку. Там я пазнаў многа цікавых маладых людзей, якія вучыліся ў вышэйшых установах Беластока. З многімі я пасябраваў, з многімі гуляў на беларускіх дыскатэках, купаллях ды фэстах. З многімі святкавалі дні нараджэння, імяніны, адны да адных хадзілі на вяселлі.



Калі ў 2003 годзе на ўніверсітэт у Беластоку паступіў мой найлепшы сябра — аднавясковец Грышка, то мы разам пачалі хадзіць на канцэрты ды студэнцкія дыскатэкі. Памятаю якраз на Аркестры Юрка Оўсяка у Беластоку меў зайграць «Н.Р.М.» мы «заправіліся» ў інтэрнаце, прыйшлі на канцэрт, якога доўга чакалі, але «Н.Р.М.», на жаль, не даехаў. Мы пабывалі на ювеналіях, на канцэртах такіх зорак польскага рока як «T-LOVE», «Dżem», «Ira», «Oddział Zamknięty», «Myslovitz», «KSU». Дзякуючы вучобе на беларускай філалогіі, я двойчы пабываў у Беларусі. Там таксама я пазнаў цікавых людзей.

Сумнае, што пяць студэнцкіх гадоў хутка праляцела, нібыта пяць дзён. Таксама ў час вучобы ва ўніверсітэце меў я нагоду прымаць удзел у аўтарскіх сустрэчах з беларускімі паэтамі ды пісьменнікамі. Дзякуючы заняткам з д-р Ленай Глагоўскай мы пабывалі нават у хаце Сакрата Яновіча ў Крынках. Гэта была вельмі цікавая сустрэча ў рамках заняткаў па антрапалогіі культуры. Пакойны Сакрат Яновіч вельмі любіў сустракацца і размаўляць са студэнтамі.

Я таксама пасябраваў з многімі жыхарамі інтэрната на Кракаўскай. Запамяталася мне спажывецкая крама на той жа вуліцы, уласнікам якой быў спадар Эрык, які рыфмаванкамі інфармаваў пра скідкі ў сваёй краме, напрыклад: «Kup dla teściowej tanie cukierki wyborowe» і г.д. Мы часта заходзілі ў краму прадаўца-паэта. Да гэтай пары з некаторымі сябрамі з інтэрната трымаю кантакт і часам сустракаемся.

За пятнаццаць гадоў многа памянялася. Тады мала хто меў камп'ютар, ніхто не меў ноўтбука ці смартфона, але тады было весялей, чымсьці ў цяперашніх інтэрнатах. Усе трымаліся разам. Хапіла, каб адзін студэнт выйшаў на калідор ды зайграў на гітары, каб адразу цэлы калідор гуляў пад гукі гітары ды песень, спяваных ужывую да белага рання. Было весела, але прыйшоў час, што чалавек вечна не будзе студэнтам і пара будаваць свой дом, сваю сям'ю, каб працаваць ды мець з таго хлеб. Многа маіх сяброў ды сябровак выехала ў Варшаву або за мяжу. Аляксей вярнуўся ў родны Мінск, дзе вучыць беларусаў польскай мове. Там ён ажаніўся ды жыве. Янка вярнуўся ў родную Дуброву-Беластоцкую, дзе працуе настаўнікам, а Андрэй жыве ды працуе ў сваім родным Бельску. Большасць маіх сяброў ды сяброўак з інтэрната па Кракаўскай раз'ехалася па цэлым свеце. Адны выехалі ў Варшаву, іншыя ў Англію, Галандыю, ЗША, дзе жывуць ды працуюць. Мала хто застаўся ў Беластоку. Ну што ж, такое дарослае жыццё, але часам прыемна сустрэцца, каб успомніць даўнія гады.

**Юрка БУЙНЮК**

ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ

## http://history.by

У мінулым нумары „Ніва” пісала пра сайт адной з найбольш важных гістарычных установаў беларускай дзяржавы — Нацыянальнага гістарычнага музея. Не менш значным з'яўляецца і галоўнае для гісторыкаў месца ў Беларусі — Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук. Гэтая ўстанова вядомая трагічным лёсам шмат каго з яе работнікаў, якія былі рэпрэсаваны падчас камуністычнага цемрашальства і барацьбы з нацыянальным беларускім светапоглядам у 30-я гады мінулага стагоддзя.

Каб бліжэй пазнаёміцца з Інстытутам гісторыі, варта зайсці на яго сайт, адрас якога ў інтэрнэце — **http://history.by**. Выглядае гэтая вэб-старонка проста, але прывабна. Там няма значных аздабленняў, але гэта кампенсуецца насычанасцю цікавай і карыснай інфармацыяй як уласна пра інстытут, так і пра развіццё гістарычнай навукі ў беларускай краіне.

Будова сайта такая, што ўверсе змешчаны выйсці на разнастайныя яго рубрыкі, а ўнізе знаходзяцца нарматыўныя акты, напрыклад, па вядзенні археалагічных прац, а таксама інфармацыя, што тычыцца сучаснай дзейнасці інстытута і супрацоўніцтва з ім.

Уладальнікам сайта, па ўсім відаць, не надта залежыць на расповедзе аб апошніх падзеях жыцця гістарычнай навуковай установы. Таму падрубрыка „Навіны”, што месціцца ў рубрыцы „Аб інстытуце”, змяшчае толькі адно паведамленне, якое да таго ж датуецца 2013 годам. Такая акалічнасць, зразумела, не ўплывае на сур'ёзную ўстанову.

У той жа час ёмка і канкрэтна распавядаецца пра мінулае Інстытута гісторыі. З той жа рубрыкі цікаўны карыстальнік даведаецца, што ўстанове ўжо акурат 86 гадоў. Яна была створана 15 кастрычніка 1929 года і да 1931 года насіла назву Інстытут гістарычных навук.

„У 30-я гады праца інстытута праходзіла ў складаных умовах. У снежні 1930 года быў пазбаўлены звання акадэмік У. І. Пічэта, у лютым 1931 года паконучыў жыццё самагубствам першы дырэктар інстытута У. М. Ігнатоўскі. У 30-я гады падвергнуліся палітычным рэпрэсіям і былі асуджаны супрацоўнікі інстытута акадэмікі: П. В. Горын (Каляда), С. Ю. Матулайціс, З. Ф. Жылуновіч, У. І. Пічэта, Е. І. Рыўлін, В. А. Сярбента, В. К. Шчарбакоў; член-карэспандэнт С. Х. Агурскі і іншыя”, — гаворыцца ў тэксце на сайце інстытута.

Згодна пададзенай там інфармацыі, сёння інстытут удзельнічае ў распрацоўцы рэспубліканскіх і рэгіянальных навуковых праектаў, валодае ўстойлівымі міжнароднымі сувязямі. У яго ўсталяваны доўгачасовыя кантакты з навуковымі цэнтрамі Расіі, Польшчы, Літвы і іншых дзяржаў.

Пра тое, як структураваны Інстытут гісторыі, распавядаецца ў рубрыцы „Структура”. Старонка ж „Канферэнцыі” змяшчае інфармацыю пра канферэнцыі, якія праводзяць альбо ў якіх удзельнічаў інстытут.

Зразумела, што для навуковай установы было б дзіўна, калі б у ёй не вялася выдавецкая дзейнасць. Пра публікацыі, што так ці інакш тычацца Інстытута гісторыі, распавядаецца ў аднайменнай рубрыцы. Праўда, наўрад ці там змешчаны поўны спіс публікацый, бо, напрыклад, няма інфармацыі пра дзясятак нумароў, выдадзеных на пераломе тысячагоддзяў, адноўленага ў 1993 годзе „Гістарычна-археалагічнага зборніка”.

Цікавай асаблівасцю сайта з'яўляецца пералік усіх супрацоўнікаў Інстытута гісторыі з іх біяграфічнымі звесткамі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

ДАТА З КАЛЕНДАРА



Паэт-самародак з Баброўні

## 110 гадоў з дня нараджэння Міхася Васілька

Беларускі паэт і грамадскі дзеяч Міхаіл Касцевіч, больш вядомы пад псеўданімам Міхась Васілёк, нарадзіўся 14 лістапада 1905 г. у вёсцы Баброўня паблізу Скідаля (цяперашні Гродзенскі раён). Паходзіў ён з праваслаўнай сям'і лесніка, быў пляменнікам вядомага дзеяча, публіцыста і паэта Макара Краўцова (Касцевіча). Сярэднюю адукацыю Міхась атрымаў, скончыўшы ў 1921 г. школу ў горадзе Казлове (Мічурынску), што на Паволжы. Там у Расіі сям'я была ў бежанстве. У 1922 г. Міхась Васілёк вярнуўся на радзіму. Працаваў на бядняцкай гаспадарцы батраком, актыўна ўлучыўся ў беларускі рух. Дзейнічаў у суполках Грамады і ТБШ, за што неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі і трапляў у турму. У 1926-1928 гг. служыў у войску ў Гродне. У гэты час працаваў у заходнебеларускім часопісе „Маланка”. Старажылы Скідаля ўспаміналі тэатральныя сцэнкі і пастаноўкі ў мястэчку, у якіх браў актыўны ўдзел паэт — Васілёк чытаў сатырычныя вершы, поўныя гумару, якія падмацоўваліся ілюстрацыямі, што выконваў сябра-аднавясковец Рыгор Каскевіч.

У 1939 г. Міхась Васілёк мабілізаваны ў польскае войска, удзельнічаў у вайне. Неўзабаве трапіў у нямецкі палон. Там вёў патрыятычныя гутаркі і асвету сярод землякоў-беларусаў. У жніўні 1941 г. яму ўдалося ўцячы дадому. Разам з ім вярнуліся, дарэчы, з палону пісьменнік Янка Брыль і Анатоль Мышко, актыўны ўдзельнік беларускага руху. Касцевіч стаў актыўна працаваць у антыфашыстоўскім падполлі. Кіраваў Скідальскім антыфашысцкім камітэтам, пад псеўданімам Язэп Гром выступаў у партызанскім друку. У 1944 г. быў у лесе ў партызанах.

Пасля вызвалення тэрыторыі Беларусі ад фашыстаў Міхась Васілёк працаваў у Скідальскай раённай газеце „Чырвоны сцяг” (1944-1946). З 1950 г. жыў у Гродне, працаваў у абласной газеце „Гродзенская праўда”. Цягам свайго творчага жыцця друкаваўся ў газетах „Народная справа”, „Наш голас”, „Народны звон”, „Наша воля”, „Беларускі дзень”, „Наша праўда”, „Беларуская газета”, часопісах „Маланка”, „Калосьсе”, „Нёман”, „Снапок”. У Вільні былі выдадзены зборнікі вершаў Міхася Васілька „Шум баравы” (1929), „З сялянскіх ніў” (1937). Рукапіс адной з кніжак паэзіі знішчаны паліцыяй у 1934 г. Як літаратар друкаваў таксама апавяданні. Пасля вайны ў Мінску выйшлі зборнікі „Выбраныя вершы” (1950), „Выбраныя творы” (1955), ужо пасля смерці паэта — „Зоры над Нёманам” (1963), „Вершы” (1973).

Паводле ўспамінаў сучаснікаў Міхась Васілёк быў вельмі дружалюбным чалавекам, прычым незалежна ад узросту суразмоўцы. Ніколі нікога не крыўдзіў і не даваў іншых у крыўду. Ён быў сапраўдным беларусам, размаўляў і пісаў на роднай мове, быў валявым і душэўным чалавекам. А разам з тым — асобай, якая была невыгодна ўсім палітычным рэжымам, якія выпалі на лёс паэта. Жыццё склалася не проста — яшчэ ў бежанстве Міхась страціў маці. Заўчасна памерла і першая жонка паэта Галіна. Абедзве хварэлі на сухоты.

Памёр Міхась Васілёк 3 верасня 1960 г. у Гродне, пахаваны на старых праваслаўных гарадскіх могілках. У гонар паэта названа вуліца ў цэнтры Гродна, дзе раней у адным з дамоў ён жыў. Гэтая вуліца раней называлася Пясочнай, а ў савецкі час мела імя Чапаева. Хата Васілька ў Баброўні не захавалася. Да сотых угодкаў паэта Белпошта выпусціла адмысловы канверт.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Гісторыя Дубяжынскага дуба (ч. I)



У цэнтры вёскі Дубяжын, якой назва паходзіць ад беларускага слова дуб, раскідваў сваю цудоўную крону стары дуб. Ён вырас на падворку нашых суседзяў. Гаспадары таго двара былі добрымі людзьмі, якіх я памятаю як сяброў маіх бабулі і дзядулі ды бацькоў. Яны называліся Галена і Фёдар Ваўранюкі. Жылі яны ў невялікім дамку, у якім выгадавалі тры дачкі: Любу, Гандзю і Галю і трох сыноў: Валодзю, Борку і Ваню. Гаспадарку атрымаў у спадчыну сын Ваня, але бацькі былі апошнімі жыхарамі дома. Участак на працягу некалькіх гадоў быў незагаспадараны...

Аднойчы ноччу маёй маме прысніўся чароўны сон. Над дубам нашых суседзяў з'явілася ікона Дзевы Марыі. Побач іконы гарэлі вялікая свяча і вогнішча. Мой бацька глядзеў на гэта з варот нашага двара і крыкнуў: «Глядзіце на гэта! Людзі і кажуць, што не існуе ніякіх цудаў у свеце!». Калі мая мама расказвала мне гэты сон, я ўсхвалявалася і адчула, што гэта не ёсць сон без значэння.

Лёс схацеў, што мая сястра Валянціна купіла гэты ўчастак для свайго сына Ірынея. Успомнены дуб стаў нам яшчэ бліжэйшым, а ўспаміны пра сон вярнуліся. У адзін год, падчас летняй навальніцы, у дуб ударыла маланка. Яго магутная крона стала распалавіньвацца. Мы ведалі, што цяжкія, нагружаныя галіны дрэва могуць прывесці да небяспекі для навакольных суседзяў і іх будынкаў. Таму як найхутчэй паведамілі адпаведныя органы, і не было ніякага выхаду, было рашэнне аб тым, каб дуб ссячы. Слёзы наплывалі на вочы, але час падціскаў. Балела сэрца, гледзячы на агромнае дрэва,


Дарафей Фіёнік

якое на вышыні 1,3 м мела да 2,84 м у акружнасці, але мела быць страчаным. Дуб ссеклі 26 лютага 2014 года спецыяльна нанятай камандай. Паявілася чарговая праблема. Што рабіць з драўнінай? На паліва было яго шкада, з'явіліся цесляры і іншыя зацікаўленыя бакі, але ўсё нешта не атрымлівалася Аднойчы мая мама сядзела на лаўцы пад сваім домам, калі да яе падышоў чалавек і пацікавіўся ссечаным дубам. Як высветлілася, гэта быў мой сябар Дарафей Фіёнік, заснавальнік Музея малой айчыны ў Студзіводах. Ася і Ірыней Вышкоўскія, уладальнікі дуба, паехалі ў музей, і пасля кароткай размовы, рашылі аддаць дрэва ў рукі Дарафея Фіёніка. Мы прысутнічалі, калі кран з цяжкасцю загружаў на грузавік ніжнюю частку дуба, якую даставілі ў Студзіводы. У той час як верхняя частка велікана, на здзіўленне ўсіх, не дазволіла сябе падняць, як бы хацела застацца ў роднай вёсцы. І засталася...

❖ Тэкст і фота Лідзіі МАЛІНОЎСКАЙ

# Успамін пра бежанства

Многа цяпер гаворыцца і пішацца пра бежанства. Хачу і я расказаць пра гісторыю маёй сям'і. Помню пра гэта з расказаў маёй мамы, якая памерла ў 2010 годзе, маючы 96 гадоў.

Мой дзед, Мікалай Лаўрашук, з вёскі Такароўшчына са сваёй сям'ёй, гэта значыць з жонкай Анастасіяй, дзяцьмі — сынам Мікалаем і дачкой Надзеяй (гэта мая мама), а таксама з сястрой падаліся ў бежанства. Мама не памятала як праходзіла дарога ў Расію. Было гэта ў 1915 годзе, а ёй тады споўніўся толькі адзін год.

Сям'я Мікалая Лаўрашука апынулася каля Самары. Людзі прынялі іх ветліва і пасялілі ў доме. На шчасце дзед быў здольным чалавекам. Пачаў займацца рамонтам абутку, ставіў печы.

У памяці сямейнікаў захаваўся ўспамін як людзі памагалі ім ананімна. У доме, дзе яны жылі, у падвойным акне не было адной знадворнай шыбы. Позним вечарам або ўночы жыхаркі вёскі прыносілі ім падарункі і клалі за шыбу ў акне. Калі хто пакладзе штосьці, пастукае і пойдзе. Ранкам знаходзілі пірог, хлеб або сала. Бабка пірагі сушыла на сухары, а сала тапіла на шмалец

Калі пачалася „мяцеліца" — гэта значыць раскулачванне, бежанцы сталі вяртацца назад. Дзедава сястра пакахала з узаемнасцю мясцовага кавалера і рашыла застацца ў Самары. Дзед са сваёй сям'ёй вярталіся цягніком. Што і раз цягнік спыняўся. На адным такім прыпынку мама выскачыла з вагона, а цягнік рушыў. На шчасце дзед схапіў яе за руку і здолеў уцягнуць у сярэдзіну. Сухары і сала выратавалі іх ад голаду ў час зваротнага падарожжа.

Калі вярнуліся назад, не было нічога. Добра, што хоць будынкі засталіся цэлыя. Гэта было восенню. Дзед папрасіў бароніху з маёнтка Геранімова, каб дазволіла перакопваць поле, на якім расла выкапаная ўжо бульба. Кожны дзень дзедка з бабкай хадзілі перакопваць бульбянішча і колькі назбіралі бульбы, столькі прынеслі дамоў. Такім чынам вясной мелі ўжо чым абсадзіць сваё поле. Збожжа ўдалося пазычыць у добрых людзей. І так пачалі жыць і гаспадарыць нанова.

Ад дзедавай сястры, якая засталася жыць у Самары, не было ніякай весткі. Яна, відаць, не перажыла голаду, які настаў пасля „мяцеліцы".

Вось так склаўся лёс маёй сям'і ў час бежанства. Мая мама з братам і бацькамі вярнуліся і таму я магу расказаць пра іх гісторыю. Колькі аднак людзей не перажыло бежанства і не вярнулася. Лёс маёй сям'і быў яшчэ даволі ласкавы.

❖ Валянціна ГРЫНЯВІЦКАЯ
Беласток

# 15.11 — 21.11

**(22.03. — 20.04.)** Набярэш ахвоты на ўпарадкаванне хаты — і добра! Ачышчэнне прасторы вакол сябе дазволіць на новае адкрыццё, якое прадбачваецца ў цябе пад канец года. Займіся старэйшымі сямейнікамі. Варушыся, сядзь на лёгкую дыету. Незалежна ад добрага настрою, схадзі да лекара на кантрольныя абследаванні. У прафесіі будзь адкрыты на новыя магчымасці, не ўпусці шанцаў.

**(21.04. — 21.05.)** Не ўключайся надта хутка ў новыя адносіны, бо пасля цяжка будзе выблытацца. Арганізуй сустрэчы, прыёмы. Будзеш устойлівы ад хвароб. Нагода для змен, дысцыпліны ці харчовага рэжыму. Рабі тое, на што маеш ахвоту. Але пільнуй свой пазваночнік і падстраўнікавую залозу. Удала ў справах, якія патрабуюць засяроджання і трываласці, але не аддавай сябе заданням усяго жыцця. Не пазычай нікому грошай!

**(22.05. — 22.06.)** 14-15.11. будзеш адкрывальнікам і наватарам, выдумаеш штосьці неверагоднае. Пастарайся вярнуць давер каханай асобы, інакш пашкадуеш. Будзь асцярожны і не прымай падарункаў ад малазнаёмых і тым больш ад добра вядомых табе людзей. Пазбягай шматлюдных і масавых мерапрыемстваў, перанясі на іншы час паход у кіно ці ў тэатр.

**(23.06. — 23.07.)** 15-19.11. пакажашся з як найлепшага боку і прыцягнеш да сябе ўвагу. Добры час на здаванне экзаменаў. Ненайлепш можа весціся ў парах, але ў сям'і канчаткова ўсё наладзіцца; але ж будзе больш абавязкаў. Трэба будзе паладзіць хатнія справы, аформіць нейкія ва ўстановах. З 19.11. могуць цябе турбаваць назойлівыя думкі, не вырашай цяпер важных спраў. Трымай дысцыпліну ў кантактах з кіраўніцтвам.

**(24.07. — 23.08.)** Атмасфера ў пары паправіцца пасля 20.11., абновіцца твае пачуццё гумару. Але пагоршыцца твая кандыцыя, устойлівасць ад хвароб; без жартаў — адразу лезь у ложак і прымай лякарствы. А ад 21.11. пачнуцца змены да непазнавальнасці!

**(24.08. — 23.09.)** Твой інтэлект працуе на ўсю катушку! Хаця здароўечка пакуль не, то і настрой будзе такі-сабе. Перакладзі на канец месяца медычныя працэдуры. Але добра зробяць табе касметолаг, цырульнік, масажыст.

**(24.09. — 23.10.)** 14-15.11. можаш разлічваць на немалы поспех. Але з 19 (да 23.11.) могуць быць непаладкі ў тваіх любоўных справах, можаш адчуваць непрыязнасць да іншых, або акалічнасці стануць упоперак да тваіх планаў, не прымушай сябе да таго, на што не маеш ахвоты. Да 20.11. вырашы неўрэгуляваныя справы з кімсьці. 21.11. не праваронь каштоўнай нагоды.

**(24.10. — 22.11.)** Наладжвай новыя кантакты, абменьвайся вопытам і размаўляй з цікавымі людзьмі. Асоба, на якой табе залежыць, не дасць табе таго, што табе патрэбнае. З 19 (да 23.11.) будзеш чамусьці многа злавацца. З 21.11. больш займіся сваім здароўем. У фінансах лёгка пагоршыцца, не купляй зашмат, бо рэчы будуць малапрыдатныя.

**(23.11. — 22.12.)** У пачуццях раз спакой, раз бура, але з 21.11. пачне ўсё вяртацца да нормы. Блізкія ашарашаць цябе нетыповымі задумамі і раптоўнымі зменамі планаў, але скандалы нічога не дадуць. Стаў на канкрэтныя размовы, не разгарайся да чырвані. Ёсць шанцы, што турботы са здароўем прападуць як рукой адняў. Час някепскі ў інтарэсах, толькі лішне не камбінуй.

**(23.12. — 20.01.)** Гарачае каханне! Паразуменне без слоў. Казярог з 5-9.01. — не аддаляйся ад каханай асобы. Падтрымка ад знаёмых. Захавай дысцыпліну ў адносінах са сваім целам — бо адмовіцца супрацоўнічаць! З 19 (да 23.11) бушаваць будзе канкурэнцыя — захавай спакой.

**(21.01. — 19.02.)** Не ўвайдзі ў канфлікт з адным са сваіх сяброў з-за глупства, бо будзе гэта цягнуцца пару месяцаў; паразмаўляй з ім, не ўцякай ад яго. Будзеш адчуваць сябе лепш, хіба што пабаліць табе крыху галава — ратунак у натуратэрапіі і дыеце. Прытрымай у кашальку грошы.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш думаць аб некалькіх справах, пры нагодзе зрэалізуеш адну са сваіх мараў. Добра цяпер ачысціш арганізм, сядзь на гароднінна-пладавую дыету і зёлкі, будзеш як нованароджаны і без хвароб датрываеш аж да лета 2016 года! З 19 (да 23.11.) твае рашэнні будуць трапныя.

Агата АРЛЯНСКАЯ

# Адгаданка

1. пецярбургскі манарх, 2. вострае адчуванне недахопу ежы, 3. падбеластоцкі горад з манастыром, 4. забруджанае месца, 5. крапаснoе збудаванне, 6. спорт Віталя Шчэрбы, 7. гарбата, 8. вострае адчуванне недахопу цяпла, 9. сяло, 10. японскі рыцар.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. (ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | | 2 | | | |
| | 3 | | | 4 | | | 5 | | 6 | |
| | | | | | | 7 | | | | |
| | | | | | | | | | | |
| 8 | | | 9 | | | | | 10 | | |

**Адказ на адгаданку з 43 нумара**

Біскуп, зяць, Кун, лыжы, лямеш, пяць, Юнг.

Рашэнне: **Лепш у пяску гніць, як з нялюбым жыць.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# ПЕРШЫ ПОМНІК АГІНСКАМУ

**1 верасня 2001 года ў Маладзечне адкрылі першы ў Беларусі помнік славутаму дзяржаўнаму дзеячу і вядомаму кампазітару Міхалу Клеафасу Агінскаму. Мала хто ведае, што першы ў свеце помнік быў пастаўлены ў Польшчы, у Гузаве каля Жырардава пад Варшавай — у месцы нараджэння князя.**





■ Палац Сабанскіх у Гузаве (фота Марка Цыбарта)

■ Помнік Клеафасу Міхалу Агінскаму ў Гузаве (фота кс. Пётра Станяка)

Нагодай для ўзвядзення помніка быў 600-гадовы юбілей Гузава, які адзначаўся ў 1998 годзе, а ў ліку яго ініцыятараў быў пробашч рымска-каталіцкай парафіі ў Гузаве ксёндз Пётр Станяк. Помнік стаіць на парафіяльным скверы перад палацам Сабанскіх і капліцай. Аўтарам помніка з'яўляецца архітэктар-скульптар Анджэй Рэнес з Варшавы.

Гузаў — невялікі фабрычны пасёлак, распалажаны ў 12 кіламетрах на паўночны захад ад Жырардава. Пачаткі гэтай мясцовасці сягаюць XV стагоддзя. У палове шасцідзясятых гадоў XVII стагоддзя Гузаў быў цэнтрам нягродавага старраства. На сейме ў 1773-1775 гадах Гузаўскае стараства атрымаў Андрэй Агінскі — сакратар вялікі літоўскі. У 1797 годзе гузаўскую маёмасць пераняў Фелікс Лубенскі — міністр юстыцыі пры Варшаўскім Герцагстве. У 1829 годзе паўстаў тут адзін з першых цукровых заводаў, а ў суседняй Рудзе-Гузаўскай пачалася будова вялікага прамысловага цэнтра, пазнейшага Жырардава. З 1856 года ўладальнікамі Гузава сталі графы Сабанскія. У сямідзясятых гадах XIX стагоддзя быў тут пабудаваны барочны палац з некаторымі неакласіцыстычнымі і рэнесанснымі элементамі. Архітэктар Уладыслаў Гіршль браў прыклад з французскіх палацаў XVII стагоддзя. План ландшафтнага парку плошчай у 15,47 гектара склаў архітэктар Валерыян Кроненберг.

У захаваным у архіве каталіцкай парафіі ў Віскітках метрычным пасведчанні аб хрышчэнні будучага кампазітара чытаем, што быў ён сынам „Яснавяльможных Андрэя графа Агінскага, мечніка Вялікага Княства Літоўскага, гузаўскага старасты, і Паўлі з Шэмбекаў, законных сужэнцаў". Не ведаю чаму бацька дзіцяці быў „разжалаваны" да звання графа, калі Агінскія, герба „Агінец" альбо „Брама", былі дынастычным князёўскім родам, які выводзіўся ад Рурыкаў і князёў смаленскіх, якія пісаліся „Агінскія з Казельска".

Значыць, бацькі кампазітара выводзіліся з самых лепшых сем'яў, якія належалі да тагачаснай эліты Рэчы Паспалітай. Для гузаўскай старасціны, маці кампазітара (па першым мужу — Лубенская, па другім — Патоцкая), яго бацька быў ужо трэцім мужам. Але нічога дзіўнага: прыгожая ўдава, паводле яе сучаснікаў, была „самай прыгожай жанчынай на Літве, Русі і ў Кароне". Цікавячы нас хлопчык быў іх другім дзіцём, народжаным 25 верасня 1765 года ў Гузаве. У час хрышчэння атрымаў імёны Клеафас Міхал Францішак Фелікс Антоні Ігнацы Юзаф і Тадэвуш. Такім чынам, тадышнім звычаем, былі ўшанаваны дзяды з боку абодвух бацькоў і іншыя заслужаныя продкі. Толькі першае імя — Клеафас — было ўласцівым імем выбраным бацькамі.

Дзяцінства Клеафаса Міхала было даволі разнастайнае, а гэта дзякуючы дыпламатычным падарожжам яго бацькі, які ў 1769 годзе быў назначаны паслом і ўпаўнаважаным міністрам Рэчы Паспалітай у Санкт-Пецярбургу, а некалькі гадоў пазней — надзвычайным паслом у Вене і Парыжы. Апрача таго разам з бацькамі падарожнічаў у Варшаву, дзе ў Агінскіх быў свой палац, ды ў маёнткі ў Вялікім Княстве Літоўскім. У Слоніме, у дзядзькі Міхала Казіміра Агінскага — гетмана ВКЛ і вядомага мецэната мастацтва, была свая музычная капэла і тэатр з балетнай трупай. Менавіта тут хлопец меў нагоду пазнаёміцца з нацыянальнымі і народнымі песнямі ды танцамі. Частыя пабыўкі Клеафаса Міхала ў Слоніме спрыялі развіццю ягонага музычнага таленту. Ужо ў час пабыўкі ў Вене бацькі нанялі яму настаўніка ігры на скрыпцы, а выхаваннем малыша займаўся гувернёр-француз. У Гузаве прабываў піяніст і скрыпач, які вучыў не толькі іграць на скрыпцы, клавікордзе і фартэпіяна, але знаёміў таксама з тэорыяй музыкі. Дзякуючы гэтаму настаўніку, а быў ім Юзаф Казлоўскі, малады князь адчуў нястрымную схільнасць да „цудоўнага мастацтва", якім з'яўляецца музыка. Таксама ў Варшаве не абыходзілася без урокаў. У выніку васемнаццацігадовы Агінскі валодаў некалькімі мовамі, прыгожа рысаваў, складаў вершы, іграў на некалькіх інструментах, быў начытаны і дасканала ведаў гісторыю свету, Еўропы і Польшчы.

У 19-гадовым узросце Агінскі стаў паслом на сейм ад Троцкага ваяводства. Удзельнічаў у працы Камісіі нацыянальнай адукацыі, займаў высокія пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім. У 1789 годзе ажаніўся з Ізабелай Лясоцкай з Бжэзін. У 1790 годзе пачалася яго дыпламатычная кар'ера. І больш-менш у тым часе пачаў пісаць свае вядомыя паланэзы. У сваіх мемуарах аб гэтым пісаў так: „Было гэта ўвосень 1792 года, калі я напісаў, ці бадай імправізаваў той паланэз у Варшаве (...). Мой (...) паланэз сведчыў, што я здзейсню вялікую рэформу ў характары паланэзаў, якія да гэтай пары ў краіне служылі ў якасці таварыскіх танцаў, а якія маглі б захаваць свой нацыянальны характар".

Аднак дзевяностыя гады XVIII стагоддзя не былі часам спакою і малады Агінскі ангажаваўся ў розныя палітычныя і ваенныя мерапрыемствы, што не прынесла нічога добрага. Прыйшлося яму ўцякаць з Польшчы, хавацца пад зменемымі прозвішчамі, рызыкаваць канфіскацыяй маёмасці на радзіме. У Францыі наладзіў кантакты з Напалеонам Банапартам, у Італіі — з генералам Янам Генрыкам Дамброўскім. У тым часе кампанаваў шмат маршаў і мелодый для вайсковых песень. Існуе даволі рэальнае меркаванне, што менавіта Агінскі быў кампазітарам мелодыі для „Песні Польскіх легіёнаў" — цяперашняга польскага дзяржаўнага гімна. Для Напалеона напісаў ён аднаактовую оперу „Зэліс і Валькур, або Банапарт у Каіры", якая нагадвае яму г.зв. „справу польскую". Але разам з ходам часу, а таксама пад уплывам размоў з князем Адамам Чартарыйскім, Агінскі штораз больш схіляўся да крытычнага ўспрымання намераў Напалеона. Дайшло нават да таго, што напісаў ліст цару Паўлу І з просьбай атрымаць дазвол вярнуцца на радзіму. Але толькі пры маладым цары Аляксандры І ахапіла яго амністыя. Пасля аўдыенцыі ў цара Аляксандра Агінскму была вернута значная частка яго ўладанняў, а ён сам быў назначаны сенатарам Расійскай імперыі і тайным саветнікам. Пасяліўся тады князь у сваім маёнтку Залессе пад Вільняй і поўнасцю аддаў сябе навуцы, музыцы, садаводству і мемуарам.

У 1817 годзе Клеафас Міхал Агінскі выдаў у Вільні два зборнікі сваіх твораў: адзін — паланэзаў, другі — рамансаў. Даход ад іх продажу быў перададзены Віленскаму дабрачыннаму таварыству, якому старшыняваў.

У 1802 годзе распалася сужэнства Агінскіх, ад якога нарадзілася двух сыноў. Агінскі паўторна ажаніўся з Марыяй дэ Нэры, спявачкай, якая нарадзіла яму чацвёра дзяцей. У час французскага наступлення на Расію Агінскія прабывалі ў Санкт-Пецярбургу. У 1822 годзе выехалі яны за мяжу па стане здароўя. Пасяліліся ў Фларэнцыі, дзе тады прабывала шмат палякаў-эмігрантаў. Князь аддаў сябе пісанню музыкі і гістарычным пошукам. У „Лістах пра музыку" расказваў, што часта імправізаваў на меланхалічныя тэмы, паколькі дрэнна пераносіў развітанне з айчынай. У сваю чаргу ў сваёй творчасці развіваў рысы характэрныя паланэзу. Як аўтар паланэзаў аказаўся найбольш арыгінальным кампазітарам гэта роду твораў. Пісаў іх, як сам адзначаў, каб слухаць, а не для танца, і заўсёды прыдаваў ім нацыянальны характар.

У творчых здабытках Агінскага адна опера, каля дваццаці рамансаў і сорак твораў для фартэпіяна, сярод якіх больш за дваццаць паланэзаў. Самы папулярны — паланэз ля-мінор, названы пазней „Развітанне з Радзімай", які ў Рэспубліцы Беларусь разглядаўся ў якасці варыянта дзяржаўнага гімна. Калі гаварыць пра паланэзы, то Агінскі з'яўляецца самым выдатным іх аўтарам у гісторыі польскай культуры.

Клеафас Міхал Агінскі памёр у Фларэнцыі 15 кастрычніка 1833 года. Пахаваны ў мясцовым касцёле Святога Крыжа. Ягоная жонка вярнулася ў Залессе і прысвяціла сябе выхаванню дзяцей. Памерла ў 1851 годзе.

У красавіку 1996 года, дзякуючы намаганням Пасольства Рэспублікі Беларусь у Італіі, жыхары Смаргоні і Залесся ўстанавілі на доме ў Фларэнцыі, у якім жыў Агінскі, мемарыяльную шыльду з надпісам: „У гэтым доме ад 1823 года да 1833 года жыў і памёр вялікі кампазітар Клеафас Міхал Агінскі". У Беларусі ў 2001 годзе перад музычнай школай у Маладзечне кампазітару быў узведзены помнік, але першы на свеце помнік Агінскаму быў адкрыты тры гады раней менавіта ў Гузаве Мазавецкага ваяводства.

Марк ЦЫБАРТ

ISSN 0546-1960